АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## ВЫПУСК 15

**Кать — коречный**

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
1996

ББК 81.2 Бел-4
Г 51
УДК 808.76(038)(091)

Рэдактар выпуску А. М. Булыка

Памочнік рэдактара Л. І. Рабаданава

Складальнікі
А. М. Булыка (колепка — копище),
А. П. Груцо (катъ — квото),
І. І. Крамко (клеймо — кнахель, кокоть — коленьский),
Л. І. Рабаданава (квятокъ — кебликъ),
У. М. Свяжынскі (кедарский — клей),
З. К. Турцэвіч (копия — коречный),
Г. К.Ціванова (кнебель — коколь)

Рэцэнзенты:
д-р філал. навук А. І. Яновіч,
канд. філал. навук М. П. Антропаў

Г51 **Гістарычны** слоўнік беларускай мовы. Вып. 15. Катъ — коречный / [Склад. А. М. Булыка і інш.; Рэд. А. М. Булыка].— Мн.: Беларуская навука, 1996.— 311 с.
ISBN 985-08-0011-9.

У 15-м выпуску, як і ў папярэдніх, даецца тлумачэнне і граматычная характарыстыка беларускай літаратурна-пісьмовай мовы XIV—XVIII стст.

Разлічан на даследчыкаў мовы і літаратуры старажытнага перыяду, гісторыкаў, этнографаў, прававедаў і ўсіх, хто займаецца вывучэннем мінулага беларускага народа.

Г $\frac{8080260000—005}{М316(03)—96}$ Дадат.—96 ББК 81.2 Бел-4

ISBN 985-08-0011-9



# К

**Катъ** *наз. Кат.* коли бы хто ... за свои злыа вчинокъ в ката в руце был. таковыи каждыи безо чти маеть быти (Ст. 1529-Ф, 103); розгневавшисе панъ его, выдалъ его катомъ. докуль ѡтдасьть весь долъгъ его (Цяп., 25б); одно его у дыбы катъ бил (АВК, XXXVI, 202, 1582); коли в месте ката немаш, и посмавши злочинцȣ пн҃ве ѡсȣдивши на смертъ кажет емȣ на шибеницȣ лѣзти и самомус ѡбѣсити (Зб. 261, 243б—244); Згола не богове але слушне катове мают быт названи (Алекс., 34); заразъ пославши кроль ката, росказал принести головȣ его (Каліст, II, 328); тамъ же до замку Корецкого ката приведено (АЗР, V, 75, 1645); Мȣчителіе: Спекȣлаторѣ, каты (Бяр., 82); царъ розгнѣвалъсѧ и подалъ слȣгȣ ѡного катомъ (Зб. 259, 186); взꙗли его катове и на земли его ростꙗгнувшы рѣзат начали (Зб. 752, 29); ажъ катове биючи их помлѣли и ѡслабѣли (Пралог, 485б); ѡц҃ъ варвары ст҃ои...самъ над дочкою своею катомъ был (Зб. 82, 208б); Наракв ѣци значатъ пȣта тыи, которыми его оу Пилата до Слȣпа на бичованіе Катове привѧзали (Зб. вып., 30б—31).

**Катыкеичикъ** *наз. Царкоўны прыслужнік.* розмаитыи сȣт слȣги в церкви божеи, сȣть аколитове ꙗко ѡни которіи лꙗмпы засвѣчали Subdiakoni ꙗко катыкеичикове, которыи потребъ додавали (Выкл., 53б).

**Кауза, кавза** *наз. Прычына.* едина бовѣм вина албо кавза и початокъ ѡтцъ (Зіз., 112б); сн҃ъ и дх҃ъ ѡба сȣт ѡт единого ѡт҃ца, ѡт единои вины, албо кавзы (Каз. Кір., 110б); хотяй ровенъ естъ во истности во всемъ Сынъ отцу, але Отецъ естъ ἡαιτια або кавза, поводъ Сынови (Пыт., 15); теды тые артикулы вси отъ стороны поданые намнѣй въ такой речы, гдѣ не есть криминальная кавза, присегати позваному, отъ розказанья не указуеть (АСД, I, 238, 1609).

**Кауръ** *гл.* кгауръ

**Кафедра** *наз. Тое, што і* катедра *ў 2 знач.* Дано во Владимірѣ, въ каѳедре нашей во второй мѣсяца Августа (АВК, II, 94, 1766).

**Кафедральный** *прым. ад* кафедра. Писанъ въ Бг҃осп҃сае-

мом градѣ Могилевѣ при цр҇кви н҇шой кафедралной епскпскои. преѡбраженіа Гсдна (Ст. бр., 21); На этом консенсе при каѳедральной печати подпись следующими словами (АВК, II, 94, 1766).

**Кафель, кафля, кахель, кахля** *наз. Кафля.* избилъ ми кахель (КСД, 147, 1514); и съ него за тотъ кахель шапку снялъ, а бити есми его не билъ (Там жа, 148); Я Грегорій Клепачъ зознавамъ, ижемъ се поднялъ зробити ... печовъ до издобъ бѣлыхъ съ кахли поливаныхъ (АВК, VI, 44, 1589); въ той свѣтлицы печь кафлей поливаныхъ стара, при печи коминокъ (АВК, XIV, 361, 1590); свѣтлочка малая отъ пекарни, въ ній пецъ зъ кафлевъ старыхъ (АСД, I, 22, 1597); Апанасу мурару запълатили за кахлю, шъто въ ратушу муровано печъ, золот. тридцать (ИЮМ, I, 114, 1680); кафлей тридцать девять, каждая кафля по осмак. два (ИЮМ, IV, 117, 1686); На направене печы у канцелярыей купили кафловъ семъ, кафель осм. по семъ (ИЮМ, VII, 156, 1690); На тые печи вышло кафель новыхъ покощаныхъ штукъ десять (ИЮМ, IX, 98, 1692); Белой кахли штукъ сто двадцать одна, по осмаку (Там жа, 156); Петръ Прусаковскій ... подалъ фольварокъ ... въ которомъ светлица ... в тей светлицы печь простыхъ кафлей, столь и лавки (АВК, I, 114, 1751).

**Кафигемонъ** *наз. Завадатар.* Авторъ: Началникъ, Каѳигемѡн. першій вынайдетелъ, ιакоинь речи. повод, причина (Бяр., 223).

**Кафизма** *наз. Назва кожнага з 20 раздзелаў псалтыра, у час чытання якіх дазвалялася сядзець.* Книги рекомые по гречески ѱалтиром а по еврейский Тилимъ еже имають в собѣ Каѳизмъ двадесеть (Скар. КБ, 5); Кафизма шестаа. ѱалом л҇з (Пс. XVII, 3б).

**Кафля** *гл.* кафель

**Кафоликъ** *наз. Прыхільнік усеагульнай усяленскай раннехрысціянскай царквы.* то ест каѳоликъ, которыи седми вселенъскими съборами оутвержен8ю вѣру держитъ (Зіз., 40); кто одно оу ѡтданью податковъ имъ належачих не позостал ведл8гъ зданьа ихъ, добрій былъ хрстіанинъ, добрій каѳоликъ, свιатобливый ч҇лкъ (Апакр., 202б); также и мовιачи кафолис кафолис ест правдивы кафолик (Дыяр., 172б); марнотравъные вправъде с8т сынове всѣ грѣшные хот каѳолики (Зб. 259, 348); мы каѳолицы, естесмы на все земли (Выкл., 142б).

**Кафолицкий** *прым. Тое, што і* кафолический. признаваючи ... нѣкоторые артик8лы вѣрѣ нашей стародавной каѳолицкой греческой быти противные (Апакр., 34б); свѣдоцтво ... которое сѧ в границы панствъ нашихъ не змѣстивши, в чюжоземскіи сѧ краины и в пограничныи намъ кролевства розлѧло, а в нихъ Кафолицкое православнои нашей вѣры бл҇гочестіе, непорочно быти ѡсвѣдчило (Сматр., 34); в сенатѣ до ваш: кр: млсти пана мнѣ млстивого, ѡ 8спокоене вѣры правдивои кафолицкои грецкои а ѡ знищене 8нѣи ... писалем (Дыяр., 166б).

**Кафолический, кафталический, кафтолический** *прым. Усяленскі, усеагульны (з пункту гледжання праваслаўнай царквы).* Всѣмъ православным хрстіаном посл8шнымъ б҇жей восточной каѳолической цр҇кве (Апакр., 17б); одину нероздѣлную каѳолическую або повшехную становятъ церковъ (Пыт., 24); на што сл8жить вѣра каѳталическаιа (Зб. 261, 200); такъ ιакосѧ в собѣ маетъ вызнане вѣры: которое на каждый день в Цр҇кви С҇той въсточной каѳолической Апслской при сл8жбе Бжой и на иных обрѧдахъ читано бываетъ (Каліст, I, 159б); в той с҇той восточной, Каѳолической Апсльской церкви без ѡдмѣны трваючих (Мак., 4б); Чого всего мають были оборонцами панове сынове мои, яко ктиторы по мнѣ зосталые, вѣру святую каѳолическую послушенства всходняго державчи, такъ тежъ и потомкове ихъ (АВК, XI, 107, 1633); будучи вѣры православной старожытной каѳолической восточного Греческого набоженства (АЗР, V, 68, 1641); в панствѣ спочатку вѣра христиιанскаιа кафолическаιа една ѡріенталнаιа, же за ласкою б҇жіею ѡд всход8 и заход8 ест принιатаιа (Дыр., 170); старецъ ... просил абы ... до с҇тое каѳолическое и апслкое цр҇кви пристал (Зб. 107, 178б); але если што против чти божо або вере кафътолическо або становъ законнымъ мовιат Або слав8 людъ побожных шыпιат не терпет (Зб. 255, 14б); правдивые с8т таемници хрестиιанъское кафолическое вѣри (Зб. 259, 348б); шлюб8ю ... так теж в вѣрѣ с҇той бл҇гочестивой православной каѳолической трвати (Ст. бр., 1—1б); Вѣра естъ една Каѳолическаа, Апстлскаа въ Цр҇кви Б҇жіей, которою рѧдитъ Папа Римскій (Зб. вып., 86). *Парайн.* кафолицкий.

**Кафтаникъ, кахфтаникъ** *наз., памянш. ад* кафтанъ. они жъ поткавши его на добровольной дорозе, его самого збили и обрали, то есть знели дылею лунскую блакитную, кахфътаникъ замшовый (АВК, XXII, 153, 1565); дробные речи мои, кафтаники и убранье, шапки маетъ жона моя пани Овдотья по животе моемъ межи слуги роздати (Там жа, 248, 1565—1566); на мнѣ дей попсовалъ хусты: кафтаникъ новый, замшовый, коштовалъ дей три золотыхъ (АВК, VI, 60, 1589); кафтаникъ полотна коленского зъ бавальною, покрытый скурою лосиневой, коштовалъ дей грошей семьдесятъ (АВК, VIII, 465, 1593); кафтаникъ бархановый з баволною, коштовалъ копу грошей литовскихъ (АВК, XXVIII, 58, 1605).

**Кафтанъ, каптанъ, кахтанъ, кофтанъ, кохтанъ** *наз. Кафтанъ, каптан.* Признался тежъ ... и къ каѳтан8 (КСД, 951, 1516); дьяку моему Андрейцу кафтанъ тафты зеленое а копа грошей (АСД, VI, 14, 1522); мордохаиж вышол ѡтпереди цр҇ѧ в порте цр҇ьскѡм синем и дирковаnѡм и кор8на золотаѧ великаа и кафтан лнѧныи и багровыи (Зб. 262, 132); осталося ...

кахтанъ крашеный, а пчолы осмеро ... а чотыри медницы меду (АВК, XVII, 243, 1540); Конюшему цареву дано ... кофтанъ адомашковый (АЗР, II, 382, 1542); ȣставуемъ тэж грозно приказуючы абы нихто с подданых нѿыхъ ... не смелъ в збронхъ в кафтанехъ ... до суду нашого земского и замкового приходити (Ст. 1566, 57б); было ... у сестры его, въ монастыре ... скрыня холсту червчята, и бюрюзы, да кафтанъ, бархатъ зеленъ рытъ, кружево и аламы низаны (АЗР, IV, 404, 1610); иглицъ осмъ сребреныхъ на шнуркахъ едъвабныхъ до кохтана (ИЮМ, XXVI, 125, 1641); Епендитⷯ: обоичик, камазелѧ, сердак, кафтан, сȣкнѧ, жȣпан, кошȣлѧ, або волнѧница (Бяр., 281); Анъдрею убогому ... купили капътанъ къ великодню (ИЮМ, I, 102, 1680); Якотовичу, подчашему, дали ялмужны, на заплачене ботовъ и кофтана, зол. два (ИЮМ, IX, 109, 1692).

**Кафтолический** *гл.* кафолический

**Каханье** *гл.* коханье

**Кахатися** *гл.* кохатися

**Кахель** *гл.* кафель

**Кахля** *гл.* кафель

**Кахтанъ** *гл.* кафтанъ

**Кахфтаникъ** *гл.* кафтаникъ

**Кацей** *наз. Татарскі вяльможа.* Уже я послал своего посла къ цр҃ю мамаю зь честью и з дарами, пошли и ты от себе своего кацѣя, написавши грамоту, якъ самь знаешь (Мам., 170).

**Кацелокъ** *гл.* котелокъ

**Кацермистръ** *наз. Заснавальнік ерасі.* Тым часом в риме дрȣгиⷯ клопот в церкви бж҃еⷯ зачалсе, иж се зꙗвил нават кацермистръ церкви римское священникъ, ѡт которого се новатиꙗнами звали (Бельск., 248б); арыⷯ ... ѡное каране то што был кацермистром и першим тог блȣдȣ вынализецею ѡтносит мѣл (Там жа, 269).

**Кацеровати** *дзеясл. Называць, прызнаваць ерэтыком, прылічваць да ерэтыкоў.* римскіе папѣжове ... всѣхъ з надоутости ѡткидаючи, всѣми гордѧчи, всѣхъ выклинаючи, всѣхъ кацѣроуючи, всѣхъ схизматикоуючи, которые колвекъ хвалы самомȣ хв҃и належачіе, им ѡтдати, а за головы костелные ѡныхъ признавати не хотѣли, и не хотѧт (Апакр., 150б—151).

**Кацерский, карцирский** *прым. Ерэтычны.* але кдень коли оу которых местех кацерскихъ албо хрестіанскихъ жоны ихъ дети породѧт подлоугъ тое вѣры и ѡбычаѧ как тыи люди там держать свое дети христѧт. да на котором коли мѣстци хрестіанскомъ албо кацерьском не могоуть и болѧют (Валх., 84); молитсѧ прорк с парсȣны чл҃ка справедливог абы его гс҃ь бг҃ъ вывбавил (так!) ѡт ꙗзыка злостивог ѡт ѧалшивое карцирское наоуки (Пс. XVI, 125б); ты ꙗко простакъ невкиⷯ не такъ имъ докȣчаешъ, и не такъ ихъ кацерские блȣды ѡбличаешъ, ꙗко римлѧне (Унія, 29б); Але гдѣжъ оное подѣнемъ «врата адовы» то естъ пащеки кацерскіе не премогутъ церкви (Гарм., 187); Пише ѡ нем свидас, иж был внȣкъ ѡног кацермистра павла самосатина которог потом ꙗды кацерские ѡтворил, ѡшȣкали сꙗ на нем люди (Бельск., 304); претож сꙗ жаденъ ѡт него нехаи не вылȣчает до проклꙗтыхъ сектъ кацерскихъ и ѡтщепенскихъ (Выкл., 117).

**Кацерско** *прысл. Па-сектанцку.* иные потвари на афанасиꙗ приносили: хитре злости свои кацерско покриваючи (Пралог, 633).

**Кацерство, кацирство** *наз. Ерась.* оуси блоуды и кацерьства которе были кацере оу кн҃ги его ȣсеѧли и вписали то все ѡны выбрали и загладили (Валх., 82б); пани ѡльбрахтовая Марътиновича ѡбослала мене, поведаючи, ижъ кацерство въ месте се дееть (КСД, 828, 1514); воⷯска антихристовы которыми собе людеⷯ подъбиꙗти маеть сȣть веси кацерства ꙗко златоȣстыⷯ мовитъ (Унія, 40б); Же сила папежовъ вⷯ блоуды и кацирства впадалѡ читаемо (Апакр., 64б); слȣхали ... первого василꙗ анкирског которыⷯ ȣпадок своⷯ в ѡбразоборствѣ кацерства або ложнȣю наȣкȣ вызнаваючи ... ѡтволане свое чинил (Бельск., 357); которіи противко науцѣ апостолской новые нѣкоторые кацерства и сны розсывали (Пыт., 24); наперве ⷯ старалсꙗ абы вѣрȣ С҃тую ѡчистилъ, а щирое зерно наȣки бж҃ои з кацерства, ꙗкъ зⷯ злого насѣнꙗ ѡтрꙗсеное ѡвцам своим подалъ (Пралог, 595); Ересь: Выборъ, бране, або рота, секта, кацерство (Бяр., 282); ѡное незбожное кацерство ѡбразоборство повстало (Зб. 82, 416). *Парайн.* качерство.

**Кацеръ, кацэръ** *наз. Ерэтык.* во всехъ сторонахъ оусточных. зовоут ихъ несторины иже ѡд некоторого кацерѧ именем несторіюс были скажены. и ѡдворочены (Валх., 78б); теж соут на ȣстоце иныи спросные кацери которе арріане соут везваны (Там жа, 84б); шаленые кацэры неволники ѡт розȣмȣ ѡтходꙗчие ... не могуть тэстаментов чинити (Ст. 1566, 87); Еретікъ, Геи: Кацеръ, ѡтщепенецъ и ѡт пастырѧ своегѡ и ѡт вѣры православнои (Бяр., 282).

**Кацирство** *гл.* кацерство

**Кация** *наз. Жаройня; кадзіла, кадзільніца.* Фіала: Каціа накшталтⷯ чашѣ, аб кȣбка, сȣдина до каджен͡ѧ, кȣбок, або ростр҃ханъ (Бяр., 319).

**Кацлеръ** *гл.* канцлеръ

**Кацэръ** *гл.* кацеръ

**Качаль** *наз. Шнурок або ланцужок, на якім гайдаецца падвешанае ўпрыгожанне.* На двȣхъ качалехъ стрыхъ Ушпанъскиⷯ, перловыⷯ, со шлꙗгомъ трꙗсенымъ, ȣроблено въ него чотыри гривенки перелъ, а за пять копъ шлягу (КСД, 872, 1516).

**Качати** *дзеясл. Качаць, каціць.* Пахолку Сердюку и Мартину Шкутку, што ихъ пилновали, якъ землю на валъ качали улицою, штобы не забавлялися, дали имъ осмак. (ИЮМ, VI,

156, 1689); Того жъ дня, наняли человековъ трыдцать качать делы на выводы (ИЮМ, XI, 70, 1697); Наняли къ пушкаромъ еще человековъ двадъцать двохъ штобы зъ выводовъ качали болшіе делы (Там жа, 73).

**Качерство** *наз. Тое, што і* кацерство. церъковъ ... мȣситъ быть або всходънаѧ або заходънаѧ што такъ естъ ꙗко бы реклъ, або латинскаѧ або кгрецъкаѧ, бо иныхъ не наити ѡкромъ тыхъ иные сȣтъ ѡкромъ тыхъ забобонъское фальшивые сынакгокги и качеръства польные (Бер. саб., 52-52б).

**Качество** *наз. Якасць, уласцівасць.* се согрѣваеть. занеже ꙗко се ставить ис теплоты чюжіѧ. тако же ставить теплотȣ чюжȣю качеством же. сиреч теплотою и стȣденью и соȣхотою. и сыростью (Арыст., 21б); видѣл есми много, что поускал кров. изгаги длѧ. вѣдал ѡ качествѣ изсгагинои а пришла емȣ тоска на срдце. и проволоклаcѧ болезнь его и [ѡ]здравел (Там жа, 219).

**Качка** *наз.* **1.** *Качка.* двое гусей Литовскій грошъ, а Польскій грошъ и два пѣнязи; четверо куровъ потомужъ, трое качокъ потомужъ (АЗР, II, 36, 1508); качекъ альбо утекъ трынасте (АСД, IV, 241, 1571); въ пекарни дей телятъ двое рочныхъ, гусей осмъ наседелыхъ зовсимъ, куръ десетеро, качокъ трое и иншихъ дей немало речей (АВК, XVIII, 44, 1582); купили ... качъку и петуха дали осмак. осмнадцать (ИЮМ, III, 45, 1685); на тотъ же банкетъ отъ розныхъ людей купили качокъ пятеро (ИЮМ, V, 129, 1688); куп. мяса, качекъ двое за 1 зол., куровъ двое за 1 зол. (ИЮМ, XVIII, 86, 1710).

**2.** *Тачка.* Федоръ Мартіюшковъ зъ Выгона съ качками робилъ дали на два дни золот. одинъ и осмак. шесть (ИЮМ, V, 169, 1688); грабари чоловекъ шесть съ качками высыповали прилавки отъ Мурованой брамы отъ Дубровны до дому Купрея Тучка (Там жа, 176); Купили ... качъки до воження гною за осм. 6 (ИЮМ, XVIII, 41, 1710).

**Качоръ** *наз. Качар.* у повалуша качокъ двѣ, качоръ одинъ (АВК, VIII, 486, 1599).

**Каша** *наз. Каша.* даютъ намъ кашу крупѧну ести и воду пити (Скар. ДП, 6); Естли бы и повторнѣ о такихъ службахъ росказывано, абы ся есми опатровалъ, яко е. м. панъ Гарабурда: ино, пане господарю! и каши не хочу, и по воду не йду (АЗР, III, 174, 1574); добра было: гуска с грыбками, кашка зъ перчыкомъ, печонка зъ цыбулькою или зъ чосныкомъ, а коли на перепышные достатки — каша рыжовая зъ шафраномъ (Мял., 318); на вулицах ȣ местехъ на’дещ страв много купит а наболе’ мѧса баранего а кашу рижовою з рыжы розмаитое (Наб. тур., 24); реклъ ѡдному слȣзѣ, навари пророцким сыном велики’ горнец каши (Бельск., 125); же дей пани матка моя, кгды ей челядница кашу на столъ ести дала, нашла у той кашы скорупу жабюю (АВК, XVIII, 334, 1638).



**Кашель** *наз. Кашаль.* а пригожает ли сѧ во смеху кашель и коротко дыханіе. и надȣтье перьсное. се ес рыѧнливъ и безстоуж (Арыст., 200).

**Кашение** *гл.* кошенье

**Кашитися** *дзеясл. Імкнуцца, старацца, дамагацца, квапіцца.* Хотѧчи тȣю показанȣю, оунѣи берестеискои, баламȣтню и неважность дѣеписъ затерти, скропити и покрити, а блазенъство прикрое людемъ оцоукровати, кашетсѧ на тое, абы показалъ, ижъ не была повиннаѧ речь с тою оунѣею або згодою оповѣдати з людми свѣтскими (Апакр., 58б); слова х҃вы котѡрые дѣеписъ кашȣчисѧ на показанье того, же монархіа, албо єдіновладство костелное петра с҃тго в’ евангеліи естъ оукгрȣнтованое приводитъ, намнѣй того твержен’ѧ его не подпираютъ (Там жа, 107б).

**Кашка** *наз., памянш. ад* каша. ѡна же взем’ши муки смеси с водою, и роспустивши вделала ему кашку (Скар. ДЦ, 88б); добра было: гуска съ грыбками, кашка зъ перчыкомъ, печонка зъ цыбулькою или зъ чосныкомъ (Мял., 318).

**Кашляти** *дзеясл. Кашляць.* велел бы емȣ побечь борзо бѫдеть ли кашлѧти. или часто дыхати (Арыст., 196).

**Кашталанъ** *гл.* каштелянъ

**Кашталеновичъ** *гл.* каштеляновичъ

**Кашталяния, каштелянея** *наз. Адміністрацыйная адзінка тэрытарыяльнага падзелу краіны; установа, звязаная з яе кіраваннем.* его кр[олевская] милость ... достоенствъ до рады свое, яко воеводствъ, каштеляней, на том же сойме причинити рачилъ (КПД, 368, 1565); знѧвшы зъ его млсти дыкгнитаръство кашталѧнию меньскую, дали есмо ему тое воеводъство полоцкое (КЛС, 124, 1597).

**Кашталяновая** *гл.* каштеляновая

**Кашталяновъ** *прым. ад* каштелянъ. тогды вси споломъ, под кашталꙗновою або маршалъковою справою тꙗгнути маютъ, до воеводы того воеводства (Ст. 1588, 50—51).

**Кашталянство** *гл.* каштелянство

**Кашталянъ** *гл.* каштелянъ

**Каштановатый** *прым. Не зусім каштанавы.* взяли коней четверо: коня каштановатого, который коштовалъ золотыхъ чотыреста, другого коня тисавого (ИЮМ, XVII, 194, 1663).

**Каштелянея** *гл.* кашталяния

**Каштеляницовая** *наз. Жонка сына каштэляна.* панъ Михалъ Богдановичъ, оповѣдалъ покладалъ и до актъ книгъ головныхъ трибунальныхъ справъ вѣчистыхъ уписати далъ инвентарь, при записѣ одъ его милости пана Францишка на Ополю Копця — каштеляница Брестянского и пани малжонки его милости, ей милости пани Катерины Стеткевичовны — подкоморанки Оршанской Копціовой, каштеляницовой Брестянской (АВК, XIII, 378, 1690).

**Каштеляницъ** *наз. Тое, што і* каштеляничъ. панъ Михалъ Богдановичъ, оповѣдалъ, покладалъ и до актъ книгъ головныхъ трибунальныхъ справъ вѣчистыхъ уписати далъ инвентарь, при записѣ одъ его милости пана Франтишка на Ополю Копця — каштеляница Брестянского (АВК, XIII, 378, 1690).

**Каштеляничъ** *наз. Сын галоўнага ваеннага кіраўніка павета (каштэляна).* енерал Его кор. млсти воеводства Минского, реестръ списаня в маетности ясне освецоных княжат их млст Миколая и Александра Четвертенских, каштеляничов Минских ... прызнал и подал тыми словы писаный (АВК, XXXIV, 335, 1664). *Парайн.* каштеляницъ, каштеляновичъ.

**Каштелянка** *наз. Дачка галоўнага ваеннага кіраўніка павета.* жаловали и оповѣдали земяне и земянки господарскіе ... на ... кзязя Марціяна Владиславовича Кгейдротя, подсудковича Виленского, ротмистра ... и малжонку его пани Барбару Семеновну Войнянку — каштелянку Мстиславскую (АВК, VIII, 497, 1608); каштелѧнка берестеˢскаѧ, зˢ сн҃ом своим паном василˢемъ коптемъ каштелѧном новогродскимъ, старане ѡ церкви ȣчинивши, село кȣпѧтицкое вѣчностю зо всѣми ее приналежностѧми купили (Дыяр., 149б).

**Каштеляновая, кашталяновая** *наз. Жонка галоўнага ваеннага кіраўніка павета.* трафило ми се заехат на ноч до стодолы ... в ымеаю ... кнегини Ивановое Соломерыцкой, каштеляновой и старостины Мстиславской (АВК, XXXVI, 1, 1582); ездил есми ... до ... кашталяновое и старостиное Мстиславское и Радомъское, кнегини Ганъны Яновны Глебовичовны (Там жа, 11); в спокоˢномъ держаню ... пани раинȣ дорогостаˢскую кашталѧновую смоленьскую заховалъ (КЛС, 110, 1597); ставшы обличне ... пани Махеровая Завишыная, каштеляновая Витебъская ... зълетила и дала моц зуполъную въ той справе на зыскъ и страту (АВК, XXX, 215, 1603).

**Каштеляновичъ, кашталеновичъ** *наз. Тое, што і* каштеляничъ. Каштеляновичъ Жомойтскій панъ Янъ Малхеровичъ Шеметъ (АЗР, III, 178, 1574); вышъ писаное отъ Федора Торкача — войта Репницкого его милости пана Криштофа Михайловича Гарабурды — кашталеновича Менского (АВК, XVIII, 157, 1598); а при томъ были ... панове прыятели нашы ... его милость панъ Миколай Савицкій, каштеляновичъ Подляскій (АВК, I, 25, 1609); отъ сына ее милости, его милости пана Ольбрыхта Нарушевича, каштеляновича Смоленского (АВК, XX, 230, 1612); тые позвы недоложеньемъ его милости пана Стабровского каштеляновичомъ Пернавскимъ зражоно (Там жа, 369, 1664).

**Каштелянство, кашталянство** *наз. Пасада галоўнага ваеннага кіраўніка горада і падпарадкаванага яму павета.* врѧды которые земские волные ѧко суть достоенства кашталѧнства не мають быть даваны ѡдно людем веры хрэстиѧнъское (Ст. 1566, 2б); на обранье електовъ на вряды всякіе въ той земли Жомойтской, то есть, на староство Жомойтское, каштелянство, подкоморство, войское, тивуньство (АЗР, III, 181, 1574); прошу тѧ поиди опят къ пану Гаваѡну и понеси ему древо и зброю, што можеш, длѧ его кашталѧнства и дворности (Трыст., 27); людемъ смачные ѡ҃т титȣлы из староства, воеводства, каштелѧнства (Зб. 259, 622б—623).

**Каштелянъ, кашталанъ, кашталянъ** *наз. Галоўны ваенны кіраўнік горада і павета; каштэлян, які выконваў таксама паліцэйска-судовыя функцыі.* при томъ были ... каштелянъ панъ Ярошъ Корецкій, конюшій великого князства Литовского, панъ Иванъ Нарушевичъ (АСД, I, 8, 1508); на которые соˢмики мають зъеждчатисѧ и бывати тые воеводове и кашталѧнове и врѧдники (Ст. 1566, 28б); врядники, то есть, каштелянъ, подкоморый и войскій, также судья, подсудокъ и писарь земскій передъ тымъ въ земли Жомойтской не были (АЗР, III, 181, 1574); за апелѧцыею ѡт сȣдовъ подъкоморскихъ до каштелѧна або маршалька и иныхъ комисаровъ на сконченье речы водлȣгъ статȣтȣ ѡтсылати моць мѣти бȣдȣтъ (Трыб., 4б); Я Александеръ Полубенскій, каштелянъ Новгородскій, сознаваю тымъ моимъ листомъ (АСД, VI, 61, 1593); Кнѧземъ, пн҃ѡмъ, воевѡдамъ, кашталѧномъ, маршалком ... в мѣсте нашом виленскомъ боудȣчим (Апакр., 29); по ним заразъ ȣмарлъ тэж пан ган нарушевич кашталѧн жмоитскиˢ (Еўл., 54); прислали пана Прецвица кашталѧна каменецкого (Барк., 148); Ипатій Потѣй, каштелянъ Брестскій, который вдовцемъ былъ (АЗР, IV, 209, 1600—1605); Григорей Война — кашталанъ Берестейскій, Ярошъ Воловичъ — подскарбій надворный ... ознаймуемъ тымъ нашимъ листомъ (АВК, VI, 213, 1601); Кроль припатрившисѧ добре положеню мѣстца до торȣню выехал, а над воˢском преложил ѧна зборовского, каштелѧ[на] гнѣзненского, мȣжа в справах рицерскихъ бѣглого (Хр. польск., 23); каштелѧнка берестеˢскаѧ, зˢ сн҃ом своим паном василˢемъ коптемъ каштелѧном новогродскимъ, старане ѡ церкви ȣчинивши, село кȣпѧтицкое купили (Дыяр., 149б); универсалъ ясне вельможного его милости пана Казимера, каштеляна Виленского (АВК, III, 63, 1668); Для каштеляна Паца 2 зол. 7 грош. на кватерку хорошей водки (ИЮМ, XXIII, 13, 1711).

**Кашубъ** *наз. Кашуб.* иллирикове, кармове, иотрове, рацове, далматове, беркгунды, стыриˢчикове, поморѧне, подолѧне, волынцы, рȣс, волошѧ, мултаны, петигорцы, черкасы, литва, москва, кашȣбове, вандалитове, слежацы, моравѧны, бехемове (Стрыйк., 426б—427); ѡт того часу тыи краины ѡт полщи ѡтпали, кашубы, сербы, сасы и выспы морские (Хр. польск., 6). *Парайн.* кашубянинъ.

**Кашубянинъ** *наз. Тое, што і* кашубъ. Тоˢ ... венкгри, чехи, кашубѧны и поморчики до трибȣту даванѧ собѣ припȣдил (Хр. польск., 5).

**Кашуля** *гл.* кошуля

**Кашывати** *дзеясл.* *Касіць пастаянна, на працягу многіх гадоў.* ты дей Якубе Петровичу Гриневичу ... нашодши кгвалтовне ... на сеножат властную отчызную ... которую з давных часов з вами по половицы кашывал (АВК, XXX, 463, 1613).

**Каючийся** *дзеепрым.* *ад* каятися. там до него ахиле$^s$ и александер и иные свещенницы вночи пришли и до ног ȣпадаючи его просили абы арыя каючого ся розвязал ѡт клѧтвы (Бельск., 260); чл҃колюбіе Бжее, наворочаючим$^s$сѧ и з$^s$ всего срдца каючим$^s$сѧ грѣшникѡмъ, дарȣетъ црство нбсное (Каліст., II, 171б); Еслибы которыи каючиисѧ былъ въ изверженіи албо вклѧтье, первей разрѣшенъ быти маеть ѡт клѧтвы, потомъ ѡт иншихъ грѣховъ (Навука, 113); грѣшныхъ каючихсѧ ласка Бж҃аѧ охотне, пріймȣетъ (Мак., 317); Такъ, мовитъ Збавитель, болшаѧ радость бȣдет на нбсѣ ѡ едном грѣшникȣ каючомсѧ, анижли ѡ девѧтидесѧтъ и деветь справедливыхъ, не потребȣючих$^s$ покаѧніѧ (Варл., 96б—97).

**Кающийся** *дзеепрым.* *ад* каятися. кающихъ бо сѧ б҃ъ покаѧние приемлеть (Чэцця, 308б); ты ... обещалъ еси кающимъсѧ, ѡтпущение грехомъ подати (Скар. ПБ, 30б); Кающим$^s$ же сѧ далъ путь справедливости (Скар. ІС, 28); Наперв еи кто бг҃а вѣрует$^s$ быти млстиваго, которыи рад кающим$^s$сѧ грѣхы длѧ сына своего ѡтпущати (Будны, 205); если бы хто кающиисѧ и крщеніѧ прагнȣчій оумерлъ, теды бы певне спасенъ былъ (Навука, 13); просили ѡтцовъ пȣстынных абы их приняли до себе и принято кающихся и грѣхи вызнаваючих (Зб. 107, 109б); не возгнушался еси кающимися (Пралог, 508); Может ли хто не бȣдȣчи Іереемъ, але свѣцким$^s$ розрешати кающагосѧ (Сакр., 13б).

**Каянье, каяние** *наз.* *Дзеянне па дзеясл.* каятися. женитва, каѧніе, и наоучительство избѣраніе, ачкольвѣкъ суть речи ст҃ые, але их$^s$ предсѧ ненадобѣ межи таинъ личити (Будны, 224б); Тых$^s$ бо жертвы суть молитвы, исповеданіе, тѣла оумерщвеніе, смирение и на сердцы ȣмиленье, каѧнье (Там жа, 243); еретицы, которыи то каянемъ якимъ ѡтправȣют (Выкл., 94б). *Парайн.* каята.

**Каята** *наз.* *Тое, што і* каянье. ѡ каѧте и о рыдании поз$^s$номъ мучителей (Скар. ПБ, 8); ты боже праведныхъ не ȣставилъ еси каѧты людемъ праведным$^s$ (Там жа, 31); на татѧ приходить студъ и каята (Скар. ІС, 12).

**Каятися, каетися, каитися** *дзеясл.* *Каяцца.* мы братя. каимосѧ грехов своих. совѣстных и несовѣстных (Чэцця, 345б); долготерпеливъ ест гсдь бог нашъ, протожъ каимысѧ того, и ѡтпущениѧ грехомъ своимъ съ плачем$^s$ жадаимы ѡт него (Скар. КЮ, 13б); Кто свое недостоинство и грѣхи на себѣ самъ знаеть грѣхѡв$^s$ сѧ каеть (Будны, 190б); ѡна рекла: Пане, каюсѧ, волю Трыщана (Трыст., 17); вели ее межы двух стенъ



замуровати, нехаи сѧ своих греховъ каеть (Бава, 167); н҃нѣ всѣм всюды роскажȣет каѧтисѧ (Каз. Кір., 18б); плакал каючися грѣхȣ своег (Бельск., 200); нонѣ о томъ и онъ и мы каемся (АЗР, V, 35, 1637); которое то чȣдо видячы много их каелосе и ѡпущали таковые злые свои ȣчынки (Зб. 752, 572); А если бы сѧ не каѧлъ вымазати таковогo (Ст. бр., 16); ȣмилѧюсѧ: ȣжалѧюсѧ, маю скрȣхȣ сердечнȣю, каюсѧ з$^s$ болестю (Бяр., 179); если каѧтисѧ не бȣдете вси погинете (Сакр., 13б); и тогом се не сповѣдалъ ани каялъ (Пралог, 552); заправди нещастная же ся напотом много бȣдешъ каяти (Зб. 82, 290). *Парайн.* каатися.

**Квадрагена** *наз.* *Саракадзённая адтэрміноўка.* Квадрагена естъ ѡтпȣщеніе караниѧ дочеснаго на дни четыредесѧтъ; Индȣлгенцыѧ естъ чворакаѧ, зȣпелнаѧ, Септена, Квадрагена и Карена (Зб. вып., 47).

**Квадрантъ** *наз.* *Назва старажытнарымскай меднай манеты, роўнай чвэрці аса.* мȣситъ быти ... месьце третее ... гдѣ бываютъ дȣшы задержываны ажъбы заплатили до наменьшого квадранта а то посполите по нашомȣ зовȣтъ, мытарства (Унія, 15б); Кодр҃атъ, р҃ант$^s$: Квадрант$^s$, лат: дѣлател$^s$, або мѣдница, аб четвероȣголен, чтыри пѣнязѣ, лядзкаѧ, полгроша пол$^s$ское (Бяр., 289).

**Квадратъ** *наз.* *Квадрат.* другая дорога до села квасовицкого идеть межи тыми дорогами обаполь въ квадратѣ одномъ лежать ажъ до стѣны Жомойское (АСД, I, 207, 1597); Болонье и квадратъ, ново теперь заложоный и зъ кгрунтами, такъ се въ собе маетъ (АВК, VI, 187, 1599).

**Квадровати** *дзеясл.* *Адпавядаць.* показȣетъ и речъ самаѧ же на жадного иншого тотъ титоул квадровати не можетъ (Апакр., 164—164б); Що же сѧ пристойне и властиве до Вмл нашего Млстиваго Пн҃а и добродѣѧ квадрȣетъ (Паўуст., 4б); доводил другим подписом руки у помененого запису малжонце его прызнаным квадрует и одной подпис руки видоме показует (АВК, XXXI, 330, 1645).

**Квакеръ** *наз.* *Квакер.* тыхъ засе Еретіковъ естъ безъ числа, которыи называются ... Иконоборцы, Лютры, Калвины, Анабаптистове, Квакрове, Манистове (Зб. вып., 87).

**Квалдъ** *гл.* кгвалтъ

**Квалтити** *гл.* кгвалтити

**Квалтовный** *гл.* кгвалтовный

**Квалтомъ** *гл.* кгвалтомъ

**Квалтъ** *гл.* кгвалтъ

**Квапенье** *наз.* *Дзеянне па дзеясл.* квапитися. вшодши натыхместъ с квапеньемъ до королѧ, просила мовечи. хочу бы ми далъ ѡттѧтȣю: на мисе голову иоана кресьтителѧ (Цяп., 51).

**Квапити** *дзеясл.* *Тое, што і* квапитися ў 1 *знач.* ѡ смерти ей доведавшисе деѡклитианъ шатȣ на собе дралъ, волаючи,

таки ѕ то люд хрестиѧнсъкиѕ неȣжитыѕ; и ꙗко за бога своего на смерть квапѧт (Пралог, 657—657б).

**Квапитися** *дзеясл.* 1. *Квапіцца, пасягаць, імкнуцца.* ямъ не квапячися на рибу ... присудилъ есми предсе Гринцу Симановичу а Малейцу Яцовичу тую землю Сюсковщину вечно (АВК, XVII, 295, 1541); виктор квапѧчисѧ до вѣчног ѡтпочиненѧ спытал ѡног млоденца прошȣ тебе повѣдаѕ ми, где ест раѕ (Бельск., 252); потом смокове розличных барвъ и ȣжове почали се квапит ку ѡзерȣ з великим кшиканемъ (Алекс., 27б); вырокȣ цесаровъ намнеѕ не дбаю, гдыж сѧ кваплю до ц҃рѧ моего небеснаго (Пралог, 506б); Припонȣждаю: ... побȣжаю, гоню, кваплюсѧ, припираю комȣ ѡ що (Бяр., 111). *Парайн.* квапити, квапятися ў 1 *знач.*

2. *Спяшацца, спяшаць.* есмо не фолкгуючи и здоровью нашому здѣся до Петрикова квапилися (АСД, I, 142, 1567); Трафилосѧ иж нѣкоторые хотѣли поховат ȣмерлог, боѧчисѧ лотрыков моавских, квапилисѧ и ȣкинȣли ȣмерлог до гробȣ елисеевог (Бельск., 128б); ѡн его тѣшил, мовѧчи не квапсе бȣдеш цесарем (Там жа, 346); Свѣтополкъ ... там же ѡтца володымера што скореѕ квапѧчисѧ на панство поховал (Стрыйк., 453); До ѡтчизны дѣтонѕки квапитѕсѧ потреба (Лям., 18); казали томȣ гаѕдȣкови абы в лобъ му стрелилъ з мȣшкета, гаѕдȣкъ зас видѧчи же то ест дховныѕ и знаемыѕ ему добре, еще сѧ з тым не квапил але первѣѕ ѡ прощеніе и бл҃гословеніе его просилъ (Дыяр., 178б); Спѣшȣсѧ: Тщȣсѧ, поспѣшаюсѧ, кваплюсѧ (Бяр., 154). *Парайн.* квапятися ў 2 *знач.*

**Квапливе** *прысл.* *Спешна, паспешна.* запаливши мѣсто, чолнѣѕших з великими скарбами и лȣпами до рȣси ꙗк быдла квапливе загнали (Стрыйк., 475).

**Кваплівость** *наз.* *Паспешнасць, паспешлівасць.* коли сѧ воротил людъ весь з кваплівостю рекли до даниила старцове (Біблія, 556); той теды лист скоро прочитаѕ а стережисе, бо певне противъ тобѣ идȣ з кваплівостю (Алекс., 16—16б); ѡни з кваплівостю прибѣгли и видѣли василиска здохлого (Там жа, 37); жыд теды, которыѕ то все видевъ зараз встал, и до Епископа зѕ кваплівостю пошол (Зб. 107, 163); Воставшы Марија шла в горнюю краинȣ з кваплівостию и вошла в домъ захариин (Зб. 255, 167); Аасѳиръ: ... квапливост горлицѣ, або поспѣх досвѣдченогѡ, або братъ который довѣдѣетсѧ (Бяр., 221).

**Квапне, квапно** *прысл.* *Спешна, паспешна.* Копыта ѡтпадаху с ногъ конѣмѕ их егда ȣтекахȣ квапне, и падахȣ с них мужи силнии врази (Скар. КС, 13); квапно того есмо не чинили, валки есмо не починали (АЗР, II, 271, 1533—1538); не хотячи того квапне чынити, а ни тое шкоды нашое даремъно упустити, писали о томъ на сеймъ вальный (Арх. ЮЗР, VIII-5, 15, 1538).

**Квапятися** *дзеясл.* 1. *Тое, што і* квапитися ў 1 *знач.* в ѡбраженю н҃шог гсдръского маестату не леда за ѡсоченемъ маем сѧ на подданых нашых квапѧти (Ст. 1566, 10).



2. *Тое, што і* квапити ў 2 *знач.* не квапѧисѧ. крови пȣщаньѧ. нижли томоу ес неволѧ жилнеи (Неба, 69б).

**Кварта** *наз.* 1. *Металічны кубак для піцця; пасудзіна для мерання, вымярэння вадкіх і сыпкіх рэчываў.* медницы тежъ и квартъты кгарнцы, абы были по всему паньству нашому великому кнѧзству литовскому ровное и ѡднакое меры (Ст. 1588, 108); кварта сребрна одна, кубковъ сребрныхъ два (АВК, XIV, 357, 1590); фляшокъ цыновыхъ три, ложокъ ценовыхъ чотыри, кварта ценовая, то дей все коштовало копъ двадцать Литовскихъ (АВК, VIII, 465, 1593); толерокъ цыновыхъ шест, мождчер один, кварта цынова одна (АВК, XXXII, 313, 1596); зъ собою побралъ кварту цыновую и полквартакъ цыновый одинъ (АВК, XX, 183, 1601); казали зробить кварту жестяную для ревизыи, за которую дали жыду осм. (ИЮМ, X, 46, 1695).

2. *Мера вадкіх і сыпкіх рэчываў, роўная чацвёртай частцы гарца, або 0,70577 літра.* отняли у него сорокъ грошей а горелъки носатку, у которой было квартъ петнадцать (АВК, XXXVI, 150, 1582); мають платити мѣщане ... отъ бочки меду розсычоного грошей шесть, отъ кварты горѣлки пѣнязей два (АЗР, IV, 249—250, 1605); нехаѕ будȣт ... справедливыѕ корецъ и кварты справедливы (Біблія, 170); ѡливы секстарій, то есть полтори кварты през рокъ травѧчи вѕ покармехъ (Мак., 14б); горѣлку ктобы кольвекъ везти въ дорогу мѣлъ, теды отъ ста квартъ по два гроши Литовскихъ (АСД, I, 278, 1634); оучинилъ ровъ вѕ котором бы моглъ двѣ мѣри, то ест шесть квартъ насѣнѧ насѣѧть около олтарѧ (Выкл., 311б); соли квартъ три, коштовала грошей чотырнадцат (АВК, XXXIV, 421, 1666); тымъ же сторожомъ при умове на кварту горелки дали (ИЮМ, I, 47, 1679); крупъ купили у дорогу овсяныхъ квартъ двадцать (ИЮМ, XI, 65, 1697).

3. *Чацвёртая частка даходаў з каралеўскіх зямель, прызначаная на ўтрыманне рэгулярнай арміі.* отъ плаченья кварты державца тамошний естъ волнымъ (Арх. ЮЗР, VIII-5, 344, 1606).

**Кварталъ** *наз.* *Чвэрць.* Мца Априля девятого дня, другого кварталу отобране зъ кабаку грошей на розходъ меский (ИЮМ, IX, 4, 1692).

**Квартемнотръ** *наз.* *Кватэрмайстар.* Для п. квартемнотра Московского, што сталъ у п. Никифора Леошкевича, п. Розинкевичу, што выдалъ на страву, ему оддали 3 зол. 24 осм. (ИЮМ, XVIII, 122, 1710).

**Квартира** *наз.* *Кватэра.* Квартира п. Жолёвой ... пиво ... свѣчи на мѣстѣ и въ дорогу (ИЮМ, XXIV, 65, 1713); Квартира въ гостинницѣ въ Гроднѣ за двѣ недѣли — 9 зол. (ИЮМ, XXV, 48, 1715).

**Квартирмистръ** *наз.* *Кватэрмайстар.* Квартирмистру на сѣно и харчи 1 зол. 15 гр. (ИЮМ, XXV, 13, 1714).

**Квартникъ** *наз. Дайняя дробная манета.* которыи тамъ мѣщане торгомъ ся обыходятъ тыи маютъ давати на годъ плату по пяти жъ квартниковъ (АЗР, II, 72, 1510); выкупуючи от пна Варпеховъского и малжонъки его тые люди мое, маю отдати монетою литовъскою, албо полскою, окром шелягов и квартников (АВК, XXXVI, 64, 1582).

**Квартовка** *наз. Мера вадкіх і сыпкіх рэчываў.* у Астапа 15 мѣр. гречихи, 2 м. чистой ржи, 3 квартовки (54 гарн.) ячменя, 34 воз. сѣна (ИЮМ, XVII, 346, 1754).

**Квартовый** I *прым. ад* кварта *ў* 1 *знач.* Купили для пановъ маистратовыхъ на горелку фляшу квартовую, келишекъ и две шклянки караватки для пива (ИЮМ, X, 68, 1695).

**Квартовый** II *прым. Кварцавы.* за две кварты соли, по осм. осемъ, шкла квартового за десять осмаковъ (ИЮМ, VI, 26, 1689).

**Квартный** *прым. ад* кварта *ў* 3 *знач.* Меду квартного приняли, кгарцовъ двесте пятдесятъ (ИЮМ, II, 86, 1684).

**Кварточка** *наз., памянш. ад* кварта *ў* 1 *знач.* коновка у полкгарца одна, кварточка невеликая одна, рострухановъ цынованыхъ пять, фляша великая одна цыновая (АВК, XIV, 357, 1590).

**Квасити** *дзеясл. Квасіць.* ꙗкъ квасъ все тѣсто квасить: такъ квасъ грѣха, весь Адамовъ рѡдъ перебѣгаетꙿ (Мак., 217).

**Квасникъ** *наз. Пасудзіна для прыгатавання і захоўвання квасу, падавання яго для піцця.* квасники чотыри (КСД, 1522, 1521); въ сѣнехъ ... квасникъ 1, медовыхъ квасниковъ 3 (АСД, I, 146, 1571); квасниковъ для квашенья пива тры, чопъ одинъ (АВК, XXXVI, 34, 1582); у броваре начыне шынковное — напервей чопъ, за который дал полкопы пять грошей, квасники пивные два ... медовые квасники тры ... корытъ пивныхъ тры (Там жа, 286); Броварне начинье, напродъ: квасниковъ малыхъ медовыхъ два, квасники два горѣлчаные, квасникъ еденъ пивный, корытъ три (АВК, XIV, 358, 1590), квасниковъ медовыхъ дубовыхъ великихъ два коштовали по золотому польскому (АВК, VIII, 466, 1593); За нощене того меду зъ бровара до каменицы путятинское на квасники также и съ квасниковъ, дали золот. два (ИЮМ, III, 23, 1685).

**Кваснити** *дзеясл. Закісаць, кіснуць, пракісаць.* До пива одного вару, абы не кваснило, соли кварты две, осм. шесть (ИЮМ, V, 107, 1688).

**Квасность** *наз. Кіслы смак, кіслотнасць.* ѡсобами Вина называютсѧ приміоты егѡ, ꙗкѡ то Квасность, Солодкость, Смакъ и проч (Дзід., 19); Называются приміоты Хлѣбовые, ꙗкѡ то Квасност Смакъ, Окрȣглость, Бѣлость, и прочаѧ (Сакр., 10).

**Квасный** *прым.* 1. *Кіслы, скіслы, пракіслы.* не будете ести в ты часы хлѣба квасного (Скар. ДЗ, 33б); слȣжба божествен-



наѧ такъ и сакрамента свѧтые подъ ѡбема ѡсобами хлебомъ квасным ... ѡтправȣютьсѧ (Унія, 7); опрѣснок згнилое егѵпетское тѣсто а хлѣб квасныи живȣщій ес (Каз. Кір., 88б); церковъ ваша квасный, который грубость нѣякую и непризвоитость въ Тѣлѣ христовомъ значитъ ... яко прѣсный (Пыт., 41); тых теды часов так в заходних ꙗко и всходних церквах с поданꙗ апостолског квасным хлѣбом литоргивано (Бельск., 262б); А скоро квасъ входитъ, заразом все тѣсто вꙿ громадȣ стѧгаетъ, и кваснымъ чинитъ (Мак., 219); хлѣбъ чорныꙿ и твердыꙿ пиво квасное и все емȣ тѧжко здавало и длѧ того хотѣлъ выꙿти (Зб. 107, 198б); Приняли ... меду кваснаго разсычонаго кгарцовъ чотыри ста пятдесятъ пять (ИЮМ, IV, 254, 1688); Молока квасного челяди, за осм. (ИЮМ, IX, 186, 1692); тамъ же отобрали меду подълого квасного кгарцовъ сто осемдесятъ (ИЮМ, X, 16, 1695).

2. *Прызначаны для заквашвання.* Ярыны квасной на тры господы за осм. шесть. Ярыны шаткованой, осм. дванадцать (ИЮМ, VII, 197, 1690).

**Квасъ** *наз.* 1. *Кіслы напітак, пераважна хлебны квас.* Да не ꙗвитьсѧ квасъ во всехъ пределехъ вашихъ за седмъ дней (Скар. ДЗ, 33б); послалъ мꙗ рано до бровара по квасъ (КВЗС, 21, 1537); Семъ дніи ѡпрѣсноки ести бȣдете: не бȣде квасȣ вꙿ домѣхъ вашихъ (Выкл., 89б); За переношене того пива, квасу и молоту дали зол. пять и осм. осмнадцать (ИЮМ, IX, 14, 1692); На квасъ дали (ИЮМ, XVII, 60, 1710).

2. *Адвар траў для мыцця ў лазні.* камѣне ... ꙗкъ сам ѡгон чирвоно бȣдет, где теж завжды вꙿ ѡных банꙗх полно ест людȣ нагог, которыи сꙗ ѡбливают кислым а горꙗчим квасом, а биютсꙗ теж сами молодыми розками, так аж заледво сꙗ дрȣгиꙿ з бани з дȣшею вырветꙿ (Стрыйк., 436).

3. *Закваска, дрожджы.* бо ꙗко тѣло без дшѣ розȣмнои, так же и тѣсто без квасу и соли ес мертво (Каз. Кір., 88); если на блгодарение ѡфѣра бȣдет, ѡферȣют хлѣбы без квасу ѡливою помазаны (Біблія, 161б); зопсȣет троха квасȣ все тѣсто (Зб. 259, 279); пекари ... прикрост в своеꙿ роботе ѡт нечистыхъ дхвъ терпет почали: коли часомъ имъ мȣкȣ разсыповали, часомъ дежȣ с квасомъ хлѣбовымъ преврочовали, и иные дышкȣрцыи строили (Пралог, 641).

4. *// перан. Аснова грэху, няпраўды, злосці, страсцей.* протож их ... ꙗко квасомъ неправдивои науки люди опȣшаючихъ ... волно есть людем свѣтским не слоухати и не наследовати (Апакр., 68б); Мытництво, естъ ꙗкійсь старый квас. застарѣлаѧ нѣѧкаѧс злость естъ (Каліст, II, 193); ꙗкъ квасъ все тѣсто квасить: такъ квасъ грѣха весь Адамовъ рѡдъ перебѣгаетъ: але Хс нбсный добрѡтливости квасъ вꙿ вѣрныхъ дши вливаетъ (Мак., 217).

5. *Кіслата, кіслы смак.* досконалым теды хлѣбом квас и сол

в собѣ маючим офѣрȣемо (Каз. Кір., 96). ◆ Квасъ фарисейский — *крывадушнае вучэнне фарысеяў.* Исусъ пакъ рѣкъ имъ, смотрите и стережитесе *ѡт* квасу фарисейского (Цяп., 22); памѧтали ижъ тот же т҃ъ фалшивыхъ прорковъ выстерегатисѧ и квасȣ фарисейского, то *ест* наоуки *их* хронитисѧ имъ былъ росказалъ (Апакр., 66б).

**Кватера** *наз.* 1. *Квадратная або прамавугольная шыба.* оболонъ шклянныхъ пять, вси побиты, въ которыхъ кватеръ пяти знаку немашъ (АВК, VIII, 491, 1601); верхніе кватеры целые, а исподніе побиты по половицы (ИЮМ, VIII, 375, 1622); За направене у окна подратушного целой кватеры золот. одинъ (ИЮМ, I, 197, 1681); Оболоны направовали у светлицы судовой, шыбъ осмнадцать, подшыбковъ одынадцать; у канцелярыей две кватеры отворчыстые новые уси робилъ (ИЮМ, VII, 174, 1690); У Северыновщыне, за пересыпане трехъ оболонъ и за дванадцать шыбъ новыхъ и за две кватеры новыхъ заплатили (ИЮМ, X, 124—125, 1695); За направу оболонъ у канцелярыи, подъ часъ стреляня зъ делъ на Девятникъ повыпадали кватеръ пять, заплатили (ИЮМ, XIII, 91, 1699).

2. *Квадрат, роўная чатырохвугольная плошча, дзялянка.* отъ брамы Машковы отъ городка отъ замку грабари почали кватеру робить и фурмане почали дзіорнъ возить (ИЮМ, V, 171, 1688); За перевожене дзіорну отъ Машковы брамы до Св. Спаса на кватеру, возовъ трынадцать, фурманемъ отъ воза по осмаку чыни зол. одинъ (Там жа, 176); трое на кватере, за Минукою шевцомъ, у брамы Ветреныя розкопывали и дорнъ старый розбирали, дали имъ осмаковъ по чотырнадцать (ИЮМ, VI, 63, 1689); Реестръ расходу на выводъ роговый, на кватеру воженя дерну (Там жа, 200).

3. *Кватэра.* взялъ ... чынечы лупъ с тыми вахтовниками кватеры своее, у Андрея Буковского с кишени золотыхъ польскихъ одинадцать, шлыкъ лисий (АВК, XX, 175, 1601).

**Кватерка I** *наз., памянш. ад* кватера *ў* 1 *знач.* направили оболонку Хведору дворнику у светелце, где мешкаетъ, кватерку зъ оловомъ и зъ шыбами и до другихъ оконъ зъ килко шыбъ, мнейшому Прохоровичу заплатили золот. (ИЮМ, VI, 119, 1689).

**Кватерка II, кватырка.** *Мера вадкіх або сыпкіх рэчываў, роўная чацвёртай частцы кварты.* гарелки кватерка для челядника (ИЮМ, I, 110, 1680); выпили ... гарелки кватерки три перегону (Там жа, 117); Горелки выпили кватерокъ осемнадцать, по осм. четыри, заплатили золот. два (ИЮМ, IV, 99, 1686); на ратушъ брали ... горелки перегону кватырокъ деветь (ИЮМ, VII, 210, 1690); купилъ горелки оковитой кватерокъ дванадцать, кватерку по осм. шесть (ИЮМ, XI, 171, 1697); Передъ выездомъ ... выпили панове маистратовые ... водки доброй кварту, а простой пять кватерокъ (ИЮМ, XIV, 45,



1700); Для каштеляна Паца 2 зол. 7 грош. на кватерку хорошей водки (ИЮМ, XXIII, 13, 1711).

**Кватермистръ** *наз. Кватэрмайстар.* жаловалъ ... воеводичъ Мстиславский ... на Станислава Ключату — вахтовника кватермистра и на иншыхъ многихъ вахтовниковъ (АВК, XX, 174, 1601); 3 роск. п. войта, п. кватермистру, которыи строитъ у Красовского, на 15 челов., мяса за 2 зол. 15 осм. (ИЮМ, XIX, 30, 1711).

**Кватерникъ** *наз. Кватар'ер, кватэрмайстар.* тотъ Станиславъ Ключата с тыми вахтовниками кватерниками своими шляхтичовъ учтивыхъ побилъ (АВК, XX, 175, 1601).

**Кватырка** *гл.* кватерка II

**Квашеное, квашоное** *наз. Тое, што прыгатавана шляхам закваскі, квашання.* Кто бы з васъ елъ квашеное, да загинеть душа та *ѡт* людей ізраилевыхъ (Скар. КВ, 23б); Седмь дней, повѣдаетъ законъ, будете пожывати опрѣсноковъ, а квашеного никако (Гарм., 204—205); хто бы елъ квашоное згинетъ дш҃а егѡ з громады Ізраилской, такъ з гостій ꙗко зѕ обывателевъ земли (Выкл., 89б).

**Квашеный, квашоный** *дзеепрым. ад* квасити. Да не ꙗсте квашенаго хлеба (Скар. КВ, 26); хлѣбы квашеные нехай бȣдȣ*т* печены с перворо*д*ны*х* жи*т* г҃ви (Каз. Кір., 90); дȣхъ свеӕы*и* походи*т* и *ѡт* сына, ижъ так в пресномъ ꙗко и въ квашоно*м* хлебе хвалебное естъ пренасвѧтшого сакраментȣ посвеценье и ѡфѧрованье (Бер. саб., 44б); ꙗкобы хлѣбъ ꙗчме*н*ныѕ не квашоныѕ прикоти*л*сꙗ до намето*в* (Бельск., 72б); ѡферȣю*т* хлѣбы без квасу ѡливою помазаны, хлебы тежъ квашены зъ ѡфѣрою бл҃годарениꙗ (Біблія, 161); принесено бы ему три хлѣбы ꙗкобы ѡливою квашеныи, которыхъ имъ бы болшей ѣлъ, тымъ бы болшей множилисѧ и росли (Мак., 74); перве*и* бовѣмъ мѣли ȣпрꙗтати хлѣбъ з домȣ, и вшелꙗкȣю рѣчъ квашенȣю, *ниж* бара*н*ка ве*л*коночного ѡфѣровали (Выкл., 47); не ели квашоногѡ хлеба (Там жа, 91).

**Квашенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* квасити. Вышедши ку ставови фортъкою — лазня, противъ нее светлочка, далей броваръ: въ немъ кади для квашенья пива три, чопъ одинъ, корытъ великихъ три (АВК, XIV, 201, 1580); на рейстрах списавщы ... квасниковъ для квашенья пива тры, чопъ одинъ (АВК, XXXVI, 34, 1582); Слатȣнок: Квашене (Бяр., 149).

**Квашня** *наз. Пасудзіна для закваскі, квашання.* чановъ пивныхъ великихъ два, квашня пивная, коштовали по грошей сороку (АВК, VIII, 466, 1593).

**Квашоное** *гл.* квашеное

**Квашоный** *гл.* квашеный

**Кверычный** *прым.* (?). ку суженью припала справа ... въ одностайной радѣ и намовѣ обвинеными ... за позвомъ о кгвалтовный ... кверычный наѣздъ на монастеръ (АВК, XV, 268, 1670).

**Квестия, квестыя** *наз.* 1. *Пытанне, праблема.* подаю тобѣ до оуваженьѧ тыежъ припомненые квестіи (Апакр., 113); На тую квестію ачбы ся не годило тобѣ жадное отповѣди дати (Пыт., 26); маетъ таѧ бесѣда двѣ квестіи, албо пытанѧ (Мак., 60); над то еще прыроженые нѣѧкіе квестіи задавал наоучителемъ своимъ (Варл., 29б); Задат бы ему ѧкую трȣднȣю квестию, которȣю если выложить неха^s^ его пустѧт (Зб. 82, 437).

2. *Допыт з катаваннем.* самого Васка ... первей на квестыю мистру въ руки подаемъ (ИЮМ, IX, 307, 1637); урадъ ... для выбаданя правды, если то не умыслне мужобойство попелънилъ, на квестіи мистру зъдалъ (Там жа, 342, 1638).

**Квестъ** *наз. Прыбытак.* тот^s^ же квестъ або зыскъ за товари и крамы дхѡвныхъ рѣчей римови приходѧчій перед очи кладет, самое оуважене того ѧко до шапѡк чирвѡных, люде барзо мѡжные с кролевскихъ, с кнѧжацких рожаевъ, з^s^ оутратою подчасъ всѣхъ хотѧ великихъ маетностій своих ледво прихѡдѧт (Апакр., 172).

**Квестыя** *гл.* квестия

**Кветень** *наз. Красавік.* Кветнѧ ѕ҃ днѧ пан самуэл волович ѡженилсе (Еўл., 50); Виктор папежъ ... ȣставил ... абы велканоцъ не инде была свечона ѡдно в ден неделныи на сходе кветнѧ (Царств., 73); Потом^s^ ѕ҃і днѧ кветнѧ вышли з мѣста (Хр. польск. 23); Длѧ того .. першимъ мѣсѧцемъ естъ квѣтень, называемый Априль (Мак , 56); писанъ ȣ варшаве днѧ ѡдинадцатог месеца кветнѧ (КАР, 18, 1646); рокъ был мѣсѧчныи ровныи слонечномȣ, а зачиналсѧ тот рокъ ѡт мсца котории был ближший котори^s^ посполите займовал част марца и квѣтнѧ нш҃ого (Выкл., 35б); Мц҃а апрілѧ рекомый кветень (Пралог, 568). *Парайн.* квитень.

**Кветечка** *наз., памянш. ад* кветка. Естем тогож дерева кветечка ѡт сестръ моих ѡтстȣпит и зневажит ихъ не хочȣ (Зб. 752, 234).

**Кветие** *гл.* кветье

**Кветка** *наз. Кветка.* непорѧдност не толко в шатах але и в келиѧх не мает быти, ѧк за ѡкном квѣтки садит або зѣле вѣшат (Зб. 261, 152); в мц҃ȣ генварȣ, и лютом, або феврали з великих всѣх подивенем квѣтки фиѧлки рожа и ѡгородныи ѧрины, и сады квитнȣли (Стрыйк., 559); ѧкъ бы ѡгород пенкный, древы плодовитыми, и иншими пахнȣчими квѣтками насаженый (Мак., 340); мало заснȣвши, ѡбачилъ себе ... быт^s^ порваного, и ... на широкое поле запроваженого, зелеными квѣтками, и вдѧчною вонностью наполненое (Варл., 279); кветки на ѡлтарȣ положоные ... здоровъе прыносили (Зб. 259, 601); ѡто ѧ ... по том ѡгню ѧко по росисто^s^ лȣце и квѣтках топчȣ (Зб. 752, 520б); ѧко пчела з^s^ розмаитих квѣтокъ збирает (Пралог, 487); Кветковъ розныхъ и венковъ, осм. (ИЮМ, XIII, 79, 1699).



**Кветневый** *прым. Красавіцкі.* корунована на замъку Краковском в костеле великом ѡстатку дн҃е квѣтневых черезъ арьцыбискупа Гнѣзненского (Рач., 349); потом вэ днѧх кветневых приходечи к собе ехалэм был до новгородка (Еўл., 48).

**Кветнути** *гл.* квитнути

**Кветный** *прым. Квяцісты, з узорам у кветкі (аб адзенні), яркі, каляровы.* тотъ повиненъ ... ставити пахолка на добромъ кони, на которомъ бы былъ панцеръ, сукня кветная (АВК, XXIV, 37, 1528). ◇ Кветная неделя *гл.* неделя

**Кветокъ** *наз.* 1. *Кветка.* чл҃къ ... ѧко кветок полный так ѡтцветает (Пс. XVI, 102б); Рȣкою держитъ квѣтокъ, дрȣгою книгȣ (Лям., 27); вдѧчне пахнȣчій квѣток, который з^s^ богосаженого Еѵглского огорода взѧтыи ... принеслъ и даровалъ (Каліст, II, 88); молодость квѣтком зеленобȣйным^s^ а старость грибом^s^ естъ свѣта (Мак., 2б); всѧких рѣчи^s^ ... ѧкъ перел золота серебра квѣтковъ и вшелѧких крȣшцовъ и всѣхъ рѣчи^s^ которые пієнкностію своею ѡчом кохане приносѧт (Зб. 107, 112); ѡздобнаго и воннаго квѣтку слава до розки сѧ и до коренѧ на которомъ ȣрослъ слуш[н]е стѧгает (Зб. 82, 56). *Парайн.* квятокъ.

2. // *перан. Росквіт.* мереоум ... юж оу кветкȣ молодости своее за рыцерѧ рост[р]опного менен есть (Троя, 47).

**Кветочокъ** *наз., памянш. ад* кветокъ у 1 *знач* коли б два идȣчи нашли ѡдин квѣточок (Зб. 261, 136б), зо всѣхъ все що колвекъ до дȣшного збавенѧ належитъ, ѧкъ квѣточки, збираючи, а в^s^ скарбцȣ срдцъ своих складаючи ... з^s^ нихъ цнотъ медъ чинѧт^s^, и вѣчныи собѣ до нбсного црства овѡцы готȣютъ (Каліст, II, 31), Нѣчого болшъ з^s^ тыхъ квѣточкѡв не маючи, толко на барзо короткій часъ ѡчи ними потѣшаючи, вонности заживают^s^ (Там жа, 83б); кролова ... квѣточковъ вонъныхъ нарвавъши принесла пред ѡбразъ наст҃е^s^шеи панъны (Зб. 259, 650б).

**Кветъ** *наз.* 1. *Кветка.* возмете ... вшелѧких квѣтов з дерев ѡздобных (Біблія, 179); казал его до красног ѡгородȣ красками и квѣты розмаитыми ѡздобленого провадит (Бельск., 248б); вшелѧкое тѣло ѧк^s^ трава, а всѧ зацност^s^ его ѧкъ квѣтъ полный: оусыхаетъ трава, и квѣтъ его ѡтпалъ, слово зас Панское зоставаетъ навѣки (Варл., 178—178б); подобные сѵт паѵкомъ, солодкость квѣтȣ в ѧдъ ѡборочаючи (Зб. 259, 155); зефиръ тиховѣючіи, и неѡтмѣнныи оучинилъ, которыи з^s^ квѣтов вонности повѣтріе наполнѧетъ (Выкл., 5); ѧ тебе ѡ тот грѣх примȣшат не бȣдȣ ѡдно квете мо^s^ иди додомȣ (Зб. 82, 20); купили красокъ розныхъ, венковъ, кветовъ, лелей (ИЮМ, XIII, 80, 1699). ◇ Кветъ мушкатовый — *абалонкі насення мускатнага дрэва, якія ўжываліся ў якасці прыправы.* продавати мають ... шаѳранъ, мушкаты, гвоздики, квѣтъ мушкатовый, кгалкганъ, цытваръ (КЗ, 703, 1498); далемъ за пол-

оубраных *ωт* сзолдана штобы та*м* не были какіе свады албо свары албо ꙗвне кгвалты (Валх., 85б); ωнъ безъ мене кгвалтъ ȣчинилъ пану *Михайл*ȣ, тȣю землю ȣ него *ωт*нялъ, жита и ωвесъ пожалъ (КСД, 35, 1510); самъ дей онъ того домовлялъ се, кому быхъ я тотъ квалдъ або забойство отповедати мелъ (АВК, XXI, 160, 1556—1557); хто бы за кгле$^{s}$то*м* приеха*в*шы... ꙗки$^{s}$ ко*л*векъ кгва*лт* вчини*л* то*т* са*м* себе и кгле$^{s}$тъ злама*л* и го*р*ло тратить (Ст. 1566, 10б); грози*л* козакомъ ижъ бы ωни никоторого кгвалтȣ в месте по селахъ не чинили (Барк., 166б); гва*л*тъ котори$^{s}$ на*м* чинꙗ*т* могли бы*с*мы *ωт*би*т* (Алекс., 16); ȣже ца*р*ство небе*с*ное кгва*л*тъ те*р*пить и кгва*л*то*в*ницы порывают его (Зб. 255, 218); отъ вѣрностей вашихъ пильно жадаемъ, абысьте ... жадной онымъ кривды, утисковъ и гвалтовъ чинити не допускали (АЗР, V, 196, 1686). // *перан. Шкода для здароўя і душы.* Лакомство кгвалтъ чини*т* (Кін., 52б); ωди*н* на дрȣгого ненасыче*н*е кȣси*т*, лако*м*ство, гва*л*ты чини*т* (Зб. 82, 126б); // *перан. Тэндэнцыйная інтэрпрэтацыя або наўмыснае скажэнне чаго-н.* власные римскихъ папежωвъ ωвечки ω пастырахъ своихъ гдесь тые слова написали. кгвалт$^{s}$ чинѧт писмȣ, абы мѣли зȣполность моцы (Апакр., 112б). ◊ К г в а л т ъ д о м о в ы й – *узброены напад на чый-н. дом.* уставляемъ, которыи члонкы имѣють судитъ: напервѣй, судить о усилство женское; другое, о розбои на добровольной дорозѣ; третее, о пожогу; четвертое, о кгвалты домовыи (АЗР, I, 41, 1420 1423); они .. тотъ квалтъ домовый того жъ дня суседьми око личными обвели и отсветчивши до книгъ записали (АВК, XXI, 110, 1556 1557), возный повиненъ ... кгвалъты домовые и иные всꙗкие речи крвавые, розбо$^{s}$, раны голо*в*щины, и иные кгвалъты посполитые ωглꙗдова*т* (Ст. 1588, 135—136).

2. *Прымус, прымушэнне; уціск, прыгнёт.* при той присезе ихъ жадного кгвалту а ни упору не было (ИЮМ, VII, 449, 1588); нȣжда — кгвалтъ, примȣшенье (Зіз., 112б); до щирои вѣри през кгвалтъ и вои*н*ȣ абы жа*д*ного не притѧгали (Каз. Кір., 68б); приказȣемъ вамъ абы есте ... меновано$^{s}$ ꙗново$^{s}$ зелепужино$^{s}$ ꙗдвизе ... ниꙗкого кгва*л*ту и наси*л*ства не чинили и ни в чомъ трȣ*д*ности ниꙗкое не задавали (КЛС, 119б—120, 1597); в$^{s}$ вѣрѣ никомоу не треба кгвалтȣ чинити (Апакр., 2б); ꙗкобы што тепе*р* з$^{s}$ гвалтȣ и з мȣсȣ ср*д*ца оучинилъ, то ωхо*т*не и самово*л*не по*л*нилъ (*М*ак., 197); ωригене*с* ... кгва*л*то*м* преслѣдованꙗ примȣшоны$^{s}$ ки*л*ка зернь кадила пога*н*ски*м* богомъ ωфѣрова*л* (Выкл., 124б); если бы нȣжда и гвалтъ вытѧгалъ, можетъ и непосвѧщеною Водою ωкрестити когω сщенни*к* (Сакр., 3б); таꙗ невеста кгва*л*тъ ȣчинила собе, ижъ покоръне и те*р*пливе та*к* срокгое *ωт*кидание выде*р*жала (Зб. 255, 6б); овцы тежь и коровы телныи маю з$^{s}$ собою, которымъ если кгвалтъ оучиню в хоженью. *ωт*идȣтъ мнѣ одногω днѧ вси стада (Хран., 51).

3. *Прымушэнне жанчыны да палавога акта сілай.* таꙗ дочъка моꙗ скоро после ωного зкгвальтованьꙗ тотъ кгвалтъ ωповедила во$^{s}$тово$^{s}$ (КВЗС, 20б, 1537); угрове срожачы сѧ без мѣры, улакомившы сѧ на хорошство ωное Эутропеи панны, хотѣли еи кгвалтъ учынити (Атыла, 211); естли бы кого в дому таковомъ забилъ або ранилъ, збилъ або кгвалтъ насилье бело$^{s}$ голове ȣчинилъ (Ст. 1588, 58); панъ Григорей Уленицкій... кгвалты дѣвкомъ и бѣлымъ головомъ чинечи, маетность подданыхъ собѣ побралъ (АВК, VIII, 554, 1601); сихе*м* сы*н* е*м*мор*о*в ... спа*л* з нею, кгва*л*тъ ȣчинивши па*н*нѣ (Біблія, 73); коли бы хто па*н*нȣ або невѣстȣ през кгва*л*тъ до того греха примȣша*л*, на то*т* ча*с* па*н*на ωна або невѣста не греши*т* (Зб. 261, 255); а*м*мона забито ω кгва*лт*, которы$^{s}$ ȣчыни*л* фомарѣ се*с*трѣ *их* (Бельск., 106б); царъ филипъ реклъ ей: кому*с* се алимпиꙗдо по*д*дала: Згрѣши*л*а*с* и не згрѣшила; абовѣ*м* кгва*л*тъ есь *ωт* бога прине*л*а (Алекс., 3); тыхъ грѣхо*в* естъ ї...ѕ. Грѣхъ телесный з$^{s}$ панною. гвалтъ ей чинѧчи (Зб. вып., 45—45б).

4. *Штраф, грашовая плата за ўчынены гвалт.* третюю часть за ся есмо Миколаю Колоцкому присудили и кгвалту ему на немъ всказали дванадцать рублевъ грошей (КЗ, 614, 1495); Есть*л*и бȣдуть тые люди мои тотъ кгвалтъ ȣчинили, и ꙗ тобѣ тыи люди шиеми выдаю, а платити тобѣ за нихъ кгвалтȣ не бȣдȣ (КСД, 57, 1510); то*т* за кож*д*ы*м* своимъ наездо*м* и по дорозе бранье*м* маеть кгвалтъ платити (Ст. 1529 Ф, 30), то*т* которы$^{s}$ будеть на до*м* або на гу*м*но наеждчати маеть кгва*лт* и шкоду платити (Ст. 1566, 24), кгва*л*тъ и шкоды з особна за кождое наеханье платити, з маетности своее рȣхомое и лежачое (Ст 1588, 58)

5. *Сялянская і мяшчанская павіннасць, згодна з якой усе працаздольныя сяляне або мяшчане абавязаны былі з'яўляцца на работу туды, куды ім загадаюць (гэтая павіннасць магла замяняцца грашовай платай).* повиненъ онъ самъ ... на толоку и на кгвалтъ ку млыну нашому посылати и то все давати и выполняти (АВК, XX, 9, 1554); повиненъ млынаръ до роботы млына и спустовъ мистромъ быти, и опъравовати и кгвалтовъ стеречы, и съ помочъю подданыхъ гамовати железа (КПД, 559, 1557); росказали есмо вже листы наши писати о рушеньѣ всее земли, ижъ бы ку воеводѣ Троцкому ... тягнули яко на квалтъ поспѣшаючися (АСД, I, 134, 1559); Повинность ... за толоки грошей дванадцеть, а за гвалтъ жита бочка, або грошей десять (АВК, XIV, 154, 1566); Плату зъ мѣщанъ зъ дыму по пятнадцать грошей въ годъ, повинность ихъ мостъ, острогъ, окопъ коло мѣста робити, на кгвалтъ ходити (АСД, III, 39, 1571); всѣхъ мѣщанъ нашихъ Липскихъ одъ толокъ, гвалтовъ вольныхъ мѣти хочемъ (АВК, XIII, 43, 1580). ◊ Г в а л т ъ г р е б и л ь н ы й — *павіннасць працаваць на пабудове і ўмацаванні грэблі.* Также тежъ мещане ... на гвалтъ гребильный ходити и мосты на местѣ и улицахъ мостити повинны будутъ (АВК, IV, 249, 1697).

6. *Парушэнне агульнапрынятых маральна-этычных норм.* Стокрадцтво, естъ гвалтъ оучиненный ... коли кто заживаетъ писма стаго, до забобоновъ, ересей, жартовъ (Зб. вып., 105б).

7. *Моц, сіла.* архилшоус а протоноръ ... великим кгвалтом и смелостью себе боронили (Троя, 21б); выдачи моцъ царскую и кгвалт войска его ѹступили перед ними (Кн. Мак., 57).

8. *Мноства, вялікая колькасць.* тотъ Миколай Зелепуга, не могучы их з онымъ кгвалтом людей на улицы позабиват и того тела служебников поотнимать, тогды с тым же кгвалтом собранымъ, нашодшы на двор ... моцно кгвалтом ся добывали (АВК, XXXVI, 289, 1582).

9. *Крык, лямант, шум.* она ... з великимъ кгвалтомъ и усильствомъ выдаршысе з рукъ ихъ ... до костела ... утекла (АВК, XX, 162, 1600); при ѡфѣрах ихъ танцы бываюг, и вшетечные пѣсни, и шаленые кгвалты (Варл., 288б); Того жъ дня, сталъ се гвалтъ подъ ратушою отъ немцовъ, коли подтяли руку Царевичу (ИЮМ, XIII, 100, 1699).

10. *Кліч аб паратунку.* за которымъ воланьемъ люди бы прибегли на ѡныѣ кгвалтъ (Ст. 1588, 406). ◊ Волати (кликати) кгвалту (кгвалтъ) — *клікаць на дапамогу* коли дей есмо ѡрали на поли и ѹслышали есмо кличучи кгвалтъ (КСД, 320, 1516); тотъ подданый мой почалъ кгвалту кликати (АВК, XXI, 199, 1556 1557), ему ужо на ратунокъ выпали, кгды почалъ кгвалту волать (АВК, XX, 70, 1591), жалобливая пани Славинская, ратуючи малжонка своего, волаючи кгвалту, прибыла ратовать (АВК, XII, 490, 1684); зазвонить на кгвалтъ — *біць у званы, склікаючы на дапамогу.* пан Миколай ... заволавшы на них кгвалту и у звон казавшы на кгвалт зазвонить ... оных побил (АВК, XXXVI, 289, 1582).

**Кгвалтячий, гвалтячий** *дзеепрым. ад* кгвалтити *ў 3 знач.* Аховѡръ: Мышъ, або покрѹшовѣючій, або гвалтячій, стискаючій стѹдню (Бяр., 243); поневажъ таковые неслыханые права, конституціи соймовые и конфедераційные, также покой посполитый взрушаюче и кгвалтячіе ... продукованыхъ документовъ видоме у суду нашего показали (АВК, XII, 463, 1676).

**Кгвалченье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* кгвалтити *ў 2 знач.* кгды яки злочинца на яснемъ а свежемъ злочинстве будетъ улапеный, такъ ижъ бы му шло о горло яко на злодействе, на лупежстве, на мордерстве, на мужобойстве, на кгвалченю паненскимъ, на заполеню домовъ (ИЮМ, VII, 436, 1588); ѡтповѣдали сыновѣ Іакова Сихемови, и оцѹ егѡ на зрадѣ розгнѣвавшися ѡ кгвалченье сестры (Хран., 52).

**Кгвардыанъ, гвардянъ, кгардыянъ, кгвардиянъ, кгвардыянъ** *наз. Настаяцель манастыра.* пры томъ пры насъ были: князь Павелъ, кгардыянъ Пинскій, а дворянинъ господарскій короля его милости панъ Семенъ Митрополитъ, а бояре нашы (РПП, 295, 1520); выехалъ ... для успокоенья розницъ, которие были межи его милостю паном Криштофомъ Радивилом. а межи кгардыяномъ костеловъ бернадынских Виленского и Ковенского (АВК, XXX, 2, 1586); ксендзъ кгвардиянъ Пинскиѣ самъ зъ ѹмоцованымъ своимъ ... того рокѹ пилновали (ККСС, 198б, 1618); прыточыласе справа за позвом и жалобою късендза балтазара речки, кгвардыяна клѧшторѹ Пинского (Там жа); законникъ Франътишка светого братей менъшыхъ, конъвенътуаловъ названыхъ, кгвардыанъ Сеньский, покладалъ ... выписъ листу фунъдацыного з книгъ земъскихъ Оршанскихъ (ИЮМ, XXIII, 288, 1630); былъ есми ужытьемъ отъ в Бозе вел. его мсти ксендза Якуба Бернардына Корыиса, коммисара провинцыалского, кгвардыана кляштору Лукомского (Там жа, 456, 1642); З роск. п. войта, ксендзу гвардяну налили меду гарцы 3 (ИЮМ, XVIII, 48, 1710).

**Кгвардыкгарда** *наз. Тое, што і* кгвардыкгардыя. плачене фурманомъ за перевожене цеклы и вапны до мурованя валу и кгвардыкгарды (ИЮМ, X, 167, 1695); За привезене латъ отъ ратушы до кгвардыкгарды, за три возы заплатили осмак. Ѕ (Там жа, 181).

**Кгвардыкгардыя, гвардыгардыя** *наз. Памяшканне для ваеннага каравула.* наняли человѣковъ чотырехъ копать фунъдаментъ на кгвардыкгардыю (ИЮМ, X, 167, 1695); зробили завесъ паръ полчварты, защепки две, пробои три и завалъ одинъ у кгвардыкгардыю (Там жа, 171); купили дровъ у гвардыгардыю сторожомъ поморнымъ (ИЮМ, XI, 30, 1697), за направу оболонъ у гвардыгардыи, ведле брамы Шкловской мурованой, потлучоныхъ одъ Астапа Кравца, бесноватого, заплатили зол. Ѓ (ИЮМ, XIII, 107, 1699). *Парайн.* кгвардыкгарда.

**Кгвардыянъ** *гл.* кгвардыанъ

**Кгваръ** *наз. Сімвалічны жэст, якім істец перад судом давай адказчыку гарантыю ў тым, што не зменіць зместу сваёй скаргі.* Которую суму пенезей панъ Епимах Львович ... злетил и зуполную моцъ поручил Лукашу Моровичу ... кгвару жадат, подносит зыскъ и страту держатъ (ИЮМ, XXXII, 34, 1578); тутъ судъ не гайный, але поточный и до тыхъ часовъ тутъ ся не заховало, абы сторона поводовая мела кгваръ чинить (ИЮМ, VII, 487, 1590); абы жалобы своее, голо учиненое, сторона поводовая якими доводы по кгваръ не доводила (Там жа). ◊ Забечи кгваромъ — *напомніць істцу пра ўчынены ім акт гвару.* я на першомъ стопню права вси обороны правные себе перестерегъ и водлугъ права кгваромъ стороне поводовой забечи готовъ былъ (ИЮМ, VII, 488, 1590); поднести кгваръ — *учыніць перад судом акт гвару, падняўшы палец правай рукі, завінуты ў рукаў.* кгваръ потлугъ права потнесла (АВК, XXXIX, 186, 1579).

**Кгвейтъ** *гл.* кглейтъ

**Кгвинтъ, гвинтъ** *наз.* **1.** *Вінт.* За розказанемъ п. райцы, за свидроване гвинтовъ у ощепу слесару дали осмак. т҃ (ИЮМ, XII, 53, 1698).

**2.** *Тое, што і* кгвихтъ. шали справедливы и ровны неха[ѕ] бȣдȣт кгвинты, справедливы[ѕ] корецъ (Біблія, 170).

**Кгвихтъ** *наз.* *Гіра для вагі.* пѣнки морское и шалей и кгвихтовъ и шлягу простого — того всего за копу 1 грошей 36 (АСД, III, 310, 1583). *Парайн.* кгвинтъ *у 2 знач.*

**Кгвоздзика, гваздика, гвоздика, гвоздыка** *наз.* *Высушаныя бутоны кветак гваздзікавага дрэва, якія скарыстоўваюцца як прыправа.* купцы чужые опричъ ярмарку подъ тую меру продавати маютъ сукно поставомъ ... шафранъ, мушкаты, гвоздики, квѣтъ мушкатовый ... фунтомъ (КЗ, 703, 1498); пану референдарю однесли ... кгвоздзикъ чвертка, золот. д҃. (ИЮМ, I, 51, 1679); гвоздика, шапъранъ, асм. ѯ҃; мука, перецъ, асм. з҃ (Там жа, 110, 1680); Гвоздыкъ лоты два (ИЮМ, XIII, 26, 1699); для п. сенъдзи: гваздикъ, цынамону, фунтъ перцу за 2 зол. 5 осм. (ИЮМ, XVIII, 55, 1710); звыкли Грекове до Оливы и Балсамȣ прикладати рожныи вонности и ... олѣйки, особливе зась тыи: Мѵрра, Кассіѧ древѧнаѧ .. Шпиканадр, Кассиѧ горнаѧ, Гвоздыки (Зб вып., 16). *Парайн.* гоздика

**[Кгвоздикъ], гвоздзикъ, гвоздикъ** *наз.* *Тое, што і* кгвоздзика. мѧсо боранье или ꙗица петȣховыи посыпати оным пред реченным, и приложити к семȣ гвоздиковъ (Арыст., 211), згинуло в тотъ часъ в той светлицы .. коренье перьцу, шафрану, гвоздиков и имберу (АВК, XXXVI, 194, 1582); онъ же мѣлъ.. гвоздиковъ фунтовъ 14 по пенезей 7 1/2 (АСД, III, 305, 1583), там много ростет цынамонȣ мушкату гвоздиков (Царств., 79б—80); Гвоздзиковъ лоты четыры (ИЮМ, XII, 16, 1698). *Парайн.* гоздикъ.

**Кгволи, гволи, кволи** *прыназ.* **1.** *Згодна з чыёй-н. воляй, жаданнем; адпаведна чыім-н. інтарэсам, схільнасцям.* ганилъ тастаментъ ... менячи, жебы кволи стороне, фальшыве выдали (КСД, 1043, 1522); маньдати никомȣ кгволи с канъцлꙗреи нашое не мают быть даваны (Ст. 1588, 21); таковы[ѕ] жадно[ѕ] цноты достȣпит не може абовем толко кгволи собе а не богȣ чинит (Зб. 261, 161); то[ѕ] теды наперве[ѕ] в краковском замкȣ костел с҃тог вацлава кгволи кролево[ѕ] свое[ѕ] дȣбровцѣ заложил (Стрыйк., 605); приняли тое назвиско: кому кгволи, и за чыимъ усилованьемъ — пытайте, а довѣдаетеся (Гарм., 175); тотъ же Дзюканицкіи ... зрекалъ се и не вѣдати кому кгволи указовалъ, якобы тая справа суду земскому судити належала (АСД, IV, 79, 1616); Все емȣ снадно и латво которій себе в[ѕ] ꙗкій хочетъ кшталтъ гволи годнымъ и вѣрнымъ д҃шамъ перемѣнѧетъ (Мак., 35); небощикъ Скрукъ енералъ не справедливе тотъ копный судъ кволи его милости пану под



судку, яко пану своему, призналъ (АВК, XVIII, 319, 1630); з кораблꙗми збожа и жывности полными, кволи с҃томȣ павлинови, до ноли их ѡдослалъ (Зб. 752, 499б—500); то все Яхимъ Фрезъ ... маючы листы панские приватные голые, кгволи собе написалъ, и то пану Протасовицкому ... ничого шкодно быть не можетъ (АВК, XX, 375, 1664). ◇ **Быти кволи (каму-н.)** — *дзейнічаць згодна з воляй і жаданнем (каго-н.).* у форобе моей не лютуючи во всем здоровя своего жона моя томила мне кволи была (СДГВ, 62, 1619).

**2.** *Для, дзеля.* до права з нимъ в само[ѕ] речи не приступують але кгволи ȣниканью права роки ... зволокають (КЛС, 144б, 1597); еслижъ кволи едности костелной о томъ ачъ сѧ южъ и вышше нѣшто припомнѣло, однакъ и в пришлом роздѣле ширей мовитисѧ боудетъ (Апакр., 161); за чымъ се беру самосемъ на присегу, кволи охроненя здоровя и маетности своее (ИЮМ, VIII, 403, 1624).

**3.** *З-за, з прычыны (пры выражэнні прычынных адносін).* Потом кгермон велики[ѕ] кнѧз литовски[ѕ] и жомоитски[ѕ] чолом ȣдарил кгволи смерти з панства ѡтчизног литовског ȣстȣпȣючи на котором двох сынов ... зоставил (Стрыйк., 529).

**Кгвяздаръ** *наз.* *Астраном, астролаг.* му еще млодэму ве кракове ѡт ꙗкогос приеждчого кгвѧздара практыковано же мѧл меть смерт ѡт грому (Еўл., 15)

**Кгданский, гданский** *прым.* *Гданьскі.* в полю ȣставичне ȣтарчкȣ чинил ... аж ганса зколꙗ гетмана кгданского забито (Стрыйк., 630б), гетман кгдански[ѕ] видѧчи же наши на том сут абы ему битвȣ дали, ȣчинил плотъ пред своими з дылеванꙗ (Хр. польск., 23); у краме моей пончохъ кгданскихъ, музскихъ пары две (ИЮМ, XXI, 423, 1625); За фляшу кгданскую полкгарцовую, што пропала тамъ же у Любужы, заплатили полталера (ИЮМ, VI, 79, 1689); справляли барву зъ сукна скарбового, гданского люндышу, пляцовой стражы (ИЮМ, X, 57, 1695). ◇ **Ортъ гданский** *гл.* ортъ

**Кгданщанинъ** *наз.* *Жыхар Гданьска.* постановили людьми служебными тую войну противъ Кгданщанъ и Татаровъ отправовати (АЗР, III, 209, 1577); Кгданщане противко ему бунты въщынають (Рач., 349—350); Крол дȣнски[ѕ] ѡказовалсꙗ кгданщаном был на велико[ѕ] помочи (Стрыйк., 631); в то[ѕ] битвѣ легло кгданщан на плꙗцȣ чотыри тисечи пꙗтсотъ двадцатъ сем (Хр. польск., 23б—24).

**Кгде** *гл.* где

**Кгдеколвекъ** *прысл.* *Тое, што і* гдекольвекъ *у* 1 *знач.* церковъ Восточная и еѣ преложеные и все духовенство ... в широкости панствъ нашихъ и панованью нашему подлеглыхъ кгдѣколвекъ мешкаючи, которыи и первѣй, за тою разностью и розорваньемъ, нѣяко утисненье поносили ... просити могли (АЗР, I, 56, 1443).

**Кгды I, гды, кды** *прысл. Калі (ужываецца як злучальнае слова пры падпарадкаванні даданых азначальных сказаў на-зоўніку галоўнага сказа).* пріидуть дни гды отыиметьсѧ ѡт нихъ женихъ (Цяп., 45б); в тотъ часъ кгды сторона жалобнаѧ сторонꙋ противьнꙋю в такихъ речахъ до кгродꙋ позоветъ а были бы доводы албо ѡтводы вонтъпливые (Трыб., 5б); таковы[s] позовъ жалобникъ маеть в ре[s]стръ ꙋписати в тотъ часъ кгды ему рокъ припадеть и дале[s] поступовати водле права (Ст. 1588, 150); сѣлъ исаакъ въ ѡно[s] земли, и далъ ему гсдъ богъ року ѡного злого, кгды сѧ иншимъ ничого не ꙋродило, а ему стокротны[s] пожитокъ (Біблія, 59); ꙋпатривши теды час кгды мечислав до великои полски заехал, казимера полѧки брата его молодшого на его мѣстце на панство принѧли (Хр. польск., 9б); по пѧтнадцати албо двадцати лѣтѣхъ, Гды добра оубогихъ собѣ привлащалъ такъ на елефанцію албо трꙋдъ захоралъ: же сѧ во всем тѣлѣ его мѣсце не найдовало где бы палцемъ ткнꙋти (Мак., 11б); На ѡнъ час кгды Адам сам тылко ѡдин былъ на свѣтѣ, а в ним сѧ замыкал вес рожаи людскии, теды недобре было, абы такъ сам был зосталъ без невѣсты (Выкл., 5).

**Кгды II, гды, кды** *зл.* 1. *Калі (ужываецца ў пачатку даданых сказаў часу):* а) *калі; у той час як (пры выражэнні частковага або поўнага супадзення ў часе дзеяння галоўнага і дадзенага сказаў).* отецъ мой . кгды осажовалъ мѣсто Коденское, дѣдицтво свое, въ той часъ росказалъ абы збудовали въ мѣстѣ Коденскомъ церковъ (АВК, III, 6, 1500): днѧ второго кды зорѧ оусходила з великим ѡпатреньем ѡтпустивши корабли ѡт порту поплынули (Троя, 18); кгдымь огледалъ, виделъ есми той сеножати ихъ на два стоги покошено есть (АВК, XXI, 53, 1555); кгды былъ на поли, нихто его не поткал (Бава, 135); дворанин кгды лист подасть маеть мети при собе сторону то ест двух шлѧхтичов длѧ доводу (Ст. 1588, 14); кгды мѣстꙋ копано фꙋндамента на[s]дено в земли рожꙋ, прето названо родис (Бельск., 37); палъ з конем кгды ꙋпорне за звѣрем бѣжал (Хр. польск., 2); Такъ оумирали Пророкове бжіи, гды в розмаитыи виденіѧ приходили (Сматр., 24); кгды еще был далеко, ѡбачилъ его ѡтцъ (Варл., 96); Гды былъ упрошоный на мейсцу пана Александра Халеевича райцы панъ Павелъ Семеновичъ, на тотъ часъ самъ продалъ коня гнядого ратушного Ивку Медведю (ИЮМ, VIII, 5, 1691);

б) *калі; пасля таго як (пры выражэнні паслядоўнасці дзеяння).* то была перваѧ валка межи троѧны и греки кгды дитѧ напоила, грековѣ на землю выступили (Троя, 30); кгды дитѧ напоила, того ж часу умерло (Трыст., 10); кгдысьмо прыехали, тамъ же на томъ местъцу знашли людей не мало (АВК, XXXVI, 260, 1582); воеводове старостове повинни бꙋдꙋть такого не пильного и недбалого врѧдника своего, кгды то на него правне доведено



бꙋдеть врѧду зложити (Ст. 1588, 181); кгды авимелех земли тоей цар довѣдал ѡ саррѣ, послал теды и взѧл еи (Біблія, 48); кгды се на них з во[s]ском[s] собрал алкгимундꙋс крол люнкгобардски[s] хотѧчи их ѡттамтол выгнати, поразили его на головꙋ (Стрыйк., 431); кгды обачылъ, же ихъ Оѳанасеи водою поливаетъ, на образъ крещенія, казалъ ихъ полапати (Гарм., 196); гды взышло слнце зараз за слнцемъ ѡбачилем на нбѣ крест (Дыяр., 151б); То кды сѧ такъ ѡтправило, дано знат иѡсифови (Выкл., 26б); кгды Алеѯандер доведалсѧ ижъ такаѧ речъ стала, тогды гнѣвꙋ великого наполнилсѧ (Алекс. 1697, 4);

в) *калі, кожны раз як (пры выражэнні пайтаральнасці дзеяння).* Чому ꙋченики твои перестꙋпають поданьѧ старших, не ꙋмывають бо рукъ своихъ гды хлебъ едѧть (Цяп., 20б); тꙋрокъ болше[s] люде[s] мѣвает, кгды в ловы або на преѧздъку еде, а штож на во[s]нꙋ (Хр. польск., 13б); оубираю сѧ в[s] одѣне подлое, и в[s] томъ звытѧжаетъ мѧ хлюба: кгды фрасобитꙋю (так!) тваръ весолою показꙋю, и в[s] том не оухожꙋ хлюбы: кгды розмовлѧю, хлюблю сѧ (Каліст, I, 3); Гды бовѣмъ в[s] мꙋдрость в[s]глѧдаемъ, видимъ еи всей волыни, всемꙋ Подолеви, всей Литвѣ, всеи презацной Коронѣ ѧснꙋю (Пауст., 4б); ѧкъ Гды хто в[s] мѣстѣ ѧковом[s] оумрет[s], южъ ни голосꙋ, ни мовы, ани гꙋкꙋ в[s] немъ мешкаючих[s] не слыхает[s] (Мак., 10); Гды сѧ Еѵхаристіа за насъ приноситъ, в[s] тотъ часъ естъ ѡфѣрою (Дзід., 24).

2. *Калі; у тым выпадку, калі; пры ўмове, калі (ужываецца ў даданых сказах умовы).* все за сѧ ѡтруцьмы кды так заправдꙋ муси быть (Троя, 8). Подданый убогій и недостаточный часовъ голодъныхъ, засеявъшы на зиму, кгды отъходить кормитися, маеть оповедати ся врадови пры войте (КПД, 577, 1557); Моркговъ на болоте подъ местомъ тые жъ мещане держать се ножатъныхъ ме (45), съ которыхъ, кгды не затонуть, повинни платить по гр. г (3) (АВК, XIV, 207, 1580); книгъ первъшихъ кгды хто выписовъ альбо видимꙋсов ѧкихъ потребовати будеть, тежъ ихъ справедливе и верне ... выдавати будꙋ (Ст. 1588, 122); в том мает наслѣдовати бꙋдовничих, тые кгды хочꙋт бꙋдовати, древа кривые выкидают (Зб. 261, 82б); кгды ты будꙋчи смертелны[s] несмертелному богу валчити хочеш, шаленост знела ꙋмыслъ тво[s] (Алекс., 24); кгды кого в[s] грѣсѣ обачимо, не осꙋжаймо его, але натыхъместъ свои грѣхи припоминаймо (Каліст, I, 7); Гды теды око твое бꙋдетъ свѣтло, все тѣло твое ѧсно бꙋдетъ (Мак., 5); Благѡ: гды пишетсѧ без титлы, в[s] Рѡсской мовѣ значитъ: Негораздъ, мдле, недобре, оуломне, зимно, лѣниво, гнюсне, неѡхотне, блѣдо, що трꙋпѣю фарбꙋ мает (Бяр., 4).

3. *У спалучэнні з часціцай* **бы** *ўжываецца ў даданых сказах умовы пры выражэнні пажаданай, уяўнай або процілеглай рэальнасці ўмовы.* Кгды бы вчынъки людскіе ... черезъ тверъдости листовъ ку вечъности не приведены ... сказила бы всякіе

речы съ часомъ старость (КЗ, 739, 1499); жебы по дочъкахъ своихъ именей лежачихъ, отъ отца ихъ имъ отъписаныхъ, въ посагу не подавала, кгды бы ихъ хотела выдавать замужъ до чужое земъли (КПД, 21, 1538); маестатъ нашъ ѡ ѡбражэне бываеть с тое причины кгды бы хто се бунтовалъ (Ст. 1566, 8б); самого кнѧзѧ бискупа ... кгды бы ѡнъ по сказанью суду головного ѡтправы ȣчинити не хотелъ, маеть быти позывано перед насъ гсдра (Ст. 1588, 104); синод намъ дхѡвным и свѣтским ваш кж мл зложити рач ... мнѡго бы доброго на немъ сѧ збȣдовало, кгды бы сѧ таѧ злость ѧвила и выткнȣла (Апакр., 18б); в добром поможеню и щастю наболшом не вытрвал бы чловекъ, кгды бы не мѣл ȣчасника добра своег (Бельск., 4); во-ска Арматные гды бы были миліѡн миліѡнами, трȣдно з бгом правдивым воевати (Дыяр., 165); кгды бы Гсдь Бгъ которого колвек з Братіи нашей з тыхъ дочасных марностей, до хвалы своей стой поволалъ ... всѧ братіѧ притомнаѧ провадити маеть (Ст. бр., 18—18б); есть ѡдинъ звыча во все маетности твое, чого кгды бы не было барзо бым рад с тобою мешкал (Зб. 107, 198); коли кто сваволне окрестит, тогда тое дѣтѧ повинно юже быти Христіаниномъ ... наветъ гды бы гвалтовне жидъ старый былъ окрещенный (Зб. вып., 14б)

**4.** *Паколькі, таму што, бо (ужываецца ў дадзеных прычынных сказах).* кгды тая церковь у Озяти нашое подаванье господарское, мы тую церковь ... ему есмо дали вѣчне (АВК, II, 5, 1555), оповедане до ураду доношу, кгдымъ, в небытности моей дома, нихто без мене того оповеданя водля потребы донести до ураду не мог (АВК, XXXVI, 61, 1582); кгды болѣй се царѧ нижли его боѧли, а таки ижъ невинной крови его кривды чинили (Біблія, 108); его был за сына ѡбрал. Кгды не мѣл своих з жоною сарою (Бельск., 14); ѧмъ есть веселым кгдысмы есть самовладцы (Тр. гіст., 68б); непріатель на пехотȣ стрелбу выпȣстил, але мало шкоды в не ȣчинил, кгды пехота до земли припала (Хр. польск., 23б); Таковы абовѣмъ подчасъ на Чловѣка Жали, смȣтки бываютъ, же ихъ и довѣка ледве можетъ забыти, албо и нѣколи: гды мȣ што днѧ новыи в срдцȣ родѧтъ боли (Лям., 3); Того привилѧ зараз на семи пан канцлѣр и подканцлѣри гды не хотѣли запечатовати, потом зновȣ ... на семъ с тым же, привилемъ ... приѣхалем (Дыяр., 156); тымъ барзѣй срдца свои млстію ко Бгȣ разжарили, кгды оупевненье маютъ ѡт хрста спсителѧ же въ таковомъ въ имѧ егѡ престое зебранью притомнымъ быти приѡбѣцалъ (Ст. бр., 3—3б).

**5.** *Хоць, калі (ужываецца ў значэнні ўступальнага злучніка ў дадзеных уступальных сказах).* кгды пред тым были боѧзливы и на голос девки з нетром светым прелекли се, ѡдкинувши всѧкȣю боѧзнь гда своего проповедали (Зб. 255, 57б).



**6.** *Калі, што, як (ужываецца ў значэнні, блізкім да значэння злучніка* што, *пры падпарадкаванні дадзеных дапаўняльных сказаў).* помъниш дей ты, пне возный, кгдысь року прошлого... прыходил до мене ... препрошаючы мене о того Червенского (АВК, XXXVI, 198, 1582); штож нам с тог кгды забъем брата и затаим кров его, лѣпе его тым кȣпцом продамо (Бельск., 26б); лѣпшаѧ естъ речь, кгды сѧ грѣшный обачаетъ, и до покоры приходитъ, нѣжли кгды справедливый з цнотъ своихъ хлюбит сѧ и выносит (Каліст, I, 6б); што за див, кгды еще и на томъ свѣте тот независтный всѣх добръ давца, тых такъ невымовных дарѡв оучастниками нас оучынил (Карп., 5).

**Кгдыбы** *зл. тлумачальны. Каб (ужываецца пры падпарадкаванні дадзеных выказнікавых сказаў).* то соромота оу асірѧновъ. кгдыбы жена посмѣвала з мȣжа чинѧчи абы оушла неȣзнаньѧ ѡт него (Хран., 374б).

**Кгдыжъ, гдыжъ, кдыжъ** *зл.* **1.** *Паколькі, бо, таму што (ужываецца ў дадзеных прычынных сказах).* кгды жъ ся таковые речи отъ него оказують, естъ подобенство, ижъ панство вашое милости Великое Князство отъ того непріятеля покою и пріязни доброе мети не можеть (КПД, 18, 1538); кгдыж вси справы часом с памети людское сплывать (так!) и в забытье приходѧть. А длѧ того ест надено абы писмом были ѡбъѧснены (Ст. 1566, 2), Кгдыжъ сторона поводовая невинность обжалованого быть поведала а потворство щыре свое вызнала, тогды пречоный Устинъ воленъ есть отъ пренакгабываня стороны поводовое учиненъ (ИЮМ, VII, 277, 1577), толко вы сами томȣ з млсти ку ѡтчизне вашои помочи бы сте могли. гдыж простота члвка бедного посполитого, на вас очи завжды оудавала, и ȣдает, и за вами идет (Цяп., Прадм., 269); головщина вжо по таковомъ скараныо плачона быти не маеть. кгдыж ѡ том ведалъ и самъ на то зезволѧлъ (Ст. 1588, 409); волѧтъ мети надъ собою тисеча наемниковъ, и што мовлю наемников кгдыжь и наемникъ часомъ бываетъ добры (Унія, 4б); не задержȣвате мене, кгдыжъ гсдъ здарил дорогȣ мою (Біблія, 56); фариж... стал накладати и лучитисѧ до сынов боѧрскихъ и до рицерства, кгдыж в каждо игрѣ и вытечцѣ не был ему жадны подобным (Тр. гіст., 67б); не вѣдаю што то бȣдет, гдыж и листу ѡд королѧ пана нашег на то даного немаш (Дыяр., 159); ȣже ѧ тепер по всему свѣтȣ царица назовȣсѧ гдыж тебе тепер в рȣках своих маю (Алекс. 1697, 86б).

**2.** *Калі (ужываецца ў дадзеных сказах з часавым значэннем).* кьгдыж днь был грекове до кролѧ приѧма послы свои прислали (Троя, 65); гдыжъ познаемъ, около чого ласку маемъ чинити, тогды ... ознаймимы имъ обычаи ласки нашое (АСД, I, 13, 1522).

**Кгдыкольвекъ** *прысл., у знач. злуч. слова. Калі (б) ні, кожны раз як (ужываецца пры падпарадкаванні дадзеных*

*уступальных сказаў).* прокураторове, кгдыкольвекъ речы судовыи справують, непотребными а шырокими вымыслы своими его кролевъскей милости и паномъ радамъ ихъ милости працы [а] трудности задають (КПД, 159, 1547).

**Кгебликъ** *гл.* кнеблик

**Кгелда** *наз. Дом, пабудаваны купецкай гільдыяй.* они ночи теперешное, кгды он подпившы собе в кгелде лежал, молчком взяли (ИЮМ, XXXII, 84, 1578); вжо тому третий день, якъ я пившы у кгѣлде и будучы пьяный, пришол есми был до мешканья Савы Дудкина на преспанье (АВК, XXXIX, 405, 1579); продалъ ... кгрунтъ мой земленый ... лежачій въ мѣстѣ Берестейскомъ ... подлѣ улочки и плацу, гдѣ кгелда замковая была (АВК, VI, 81, 1589); Товары менованыи у склепѣ, у малой кгелдѣ, за копъ девять за ключомъ моимъ (АСД, VI, 216, 1625).

**Кгелетка** *наз. Даёнка.* Стамна — кгелетка, збанъ (Зіз., 119).

**Кгелихъ** *гл.* келихъ

**Кгенеты** *гл.* генеты

**Кгеорькгиянинъ** *гл.* георгианинъ

**Кгепидъ, кгэпидъ** *наз. Прадстаўнік старажытнага германскага народа, які належаў да ўсходнегерманскай (вандальскай) групы.* ѡстрокготы и част товарышов своих на правом рогу поставил, Валѧмира королѧ над ними преложыл, лѣвыи рогъ засадилъ кгепидами и ѡстатком товарышовъ своихъ (Атыла, 196), также тэж и Аръдарык король кгэпидов на Тэѡдорыка и на висэкготы мужне натираль (Там жа)

**Кгерада** *наз. Пасаг нявесты (адзенне, бялізна, пасцель).* Тую кгераду учтивой Гани Махайловне позосталои кромъ делу прылучили и поступили (ИЮМ, XXXII, 177, 1578); отдал . малжонце ... в чомъ одно хоживала и што колвек до уберу жоноцъког належит, яко то называетсе водлугъ права майдебурского кгерадою (АВК, XXXIX, 198, 1579); над то ей отдал вси хусты белые, яко называют водлуг права майдебурского кгерадою, и в чым одно она будучи за жывота его хожывала (Там жа, 567). *Парайн.* кгерадъ.

**Кгерадъ** *наз. Тое, што і* кгерада. по смерти жоны мает остат у мужа ложе услано, а иж иншие речи вернулъ ... уряд волнымъ учинил Семена Целепня о тот кгерад и вжо тая Поладя о тое болшъ его до права поволокать не маеть (АВК, XXXIX, 50, 1578); жона въ добрахъ мужа своего змерлого ничого венцей собе привлащати не можетъ, одно кгерадъ альбо то, што ей урадовне передъ судомъ естъ оправлено, або даровано (ИЮМ, VIII, 233, 1596).

**Кгербинокъ** *гл.* кгерынокъ

**Кгерлица** *наз. Гатунак сукна, выраблenага ў Горліцах.* далъ две шубки горностайныхъ, за копъ двадцать одну ... а поставецъ сукна кгерлицы зеленой за копъ три (ИЮМ, VII, 410, 1588); у той же коморе ... сукно чирвоное, кгерлица, которымъ столъ прикрить (АВК, XX, 136, 1598).



**Кгерличный** *прым. ад* кгерлица. ◊ С у к н о к г е р л и ч н о е *гл.* сукно

**Кгермакъ, кгермиакъ, кгермякъ** *наз. Тое, што і* ермякъ. кгермакъ чорный фалендышовый ... коштывалъ копъ пять гроши сорокъ (ИЮМ, VII, 290, 1578); Матѳей ... поклодал перед урядомъ ермякъ сукна белого простого ... якож поведил, иж его кгермяк перѣправилъ для тог, же се попсовал был (АВК, XXXIX, 569, 1579); поведил ... коновалский, иж не мой кгермак, ани моег сукна (Там жа); кгерміакъ бѣлый сукна Волоского, подшитый бакгазіею зъ шнурами шолковыми, коштовалъ дей осмь копъ грошей Литовскихъ (АВК, VIII, 465, 1593); кгермакъ канавасовый, кунами подшитый, коштовалъ сто золотых польскихъ (Там жа, 484, 1599); кгвалтовне взялъ ... кгермакъ чырвоный каразыевый (АВК, XX, 178, 1601); овса немолочоного з гумна взято копъ петьдесятъ ... кгермакъ чорный фалюндышовый (АВК, XXVIII, 63, 1605).

**Кгерманинъ** *гл.* германинъ

**Кгермекъ** *гл.* гермокъ

**Кгермиакъ** *гл.* кгермакъ

**Кгермякъ** *гл.* кгермакъ

**Кгерынокъ, кгербинокъ, кгерунокъ** *наз. Гатунак сукна.* Кгерынку поставов піат по копъ чотыре, гроши трыдцать (ИЮМ, XXXII, 177, 1578); Гаврило Паненка, мѣщанинъ Берестейскій, съ Познанья мѣлъ товаръ свой: сукна кгерунку поставовъ 2 по грошей 4 (АСД, III, 321, 1583); За розказаньем Его млсти пана войта кгербинку локти д҃, по золот. в҃, у пана Кособуцкого (ИЮМ, I, 139, 1681)

**Кгилнский** *прым.* ◊ С у к н о к г и л н с к о е *гл.* сукно

**Кгимель** *наз. Назва трэцяй літары яўрэйскага алфавіта.* Первое слово называетсѧ Алефъ, Еже Порускии сказуетсѧ Наȣка. Второе Бетъ знаменуеть Дѡмъ. Третее Кгимель полность. Четвертое Далетъ Крижала (Скар. ПЕ, 2б).

**Кгимовъ** *прым. ад* кгимъ *у* 1 *знач.* мдрость не ѡткȣдȣ ѡбрететсѧ ... не ѡшацȣеть ее золотом и склѧнностью и ѡтмѣна ее соудомъ кгимовым: самосвѣтныи и животныи ни вспомѧнетсѧ и пробавленье мдрсти нижли жемчȣгъ (Зб. 262, 23б); колце золотое а за низки кгимовы казнител мȣдрыи оухо послȣшномȣ (Там жа, 106).

**Кгимъ** *наз.* 1. *Чыстае золата.* ѧ розȣмъ ... лѣпшеи ѡвощь мои нижли дорогое золото и кгим и ѡбилье мое нижли серебро выбраное (Зб. 262, 97); как се ѡтемнѣло золото зменилсѧ кгимъ налѣпшіи (Там жа, 112б).

2. *Адзенне з тканіны, вышыванай або тканай ніткамі з чыстага золата.* възведох ѡчи мои и видѣх и се мȣжь един ѡблечон во лнѧное и лѧдви его препоѡсаны кгимом плавленым (Зб. 262, 124).

**Кгинчалъ** *наз. Кінжал.* Кгды бы хто кого ȣмысльне з гнѣву

а запаметалости серца злого ножомъ пуйналомъ кгинчалом забилъ (Ст. 1588, 411).

**Кгласкати** *дзеясл. Гладзіць, лашчыць.* Алеѯандер шол до него [бȣцефала] ȣздȣ взложил, ѡбернул его кȣ слонцȣ головою ... его лагодне кгласкал, гривȣ чесал (Бельск., 170).

**Кглейтованый** *дзеепрым. ад* кглейтовати. приказȣемъ, абы... во всемъ ку нему ꙗко ѡтъ насъ гсдра кглейтованому спокойне и пристойне заховали (КЛС, 22б, 1596); ѡ чом абы кожды ведаючы противко немȣ ꙗко ѡд нас кглейтованомȣ во всем спокойне ... заховалсе (КАР, 90б, 1648).

**Кглейтовати** *дзеясл. Гарантаваць каму-н. бяспеку (звычайна шляхам выдачы спецыяльнага ахоўнага дакумента).* колонтаꙗ ѡтъ вшелꙗкихъ насильствъ и небеспечностей симъ листомъ нашымъ кглейтуемъ (КЛС, 6, 1596); ѡт всꙗких насилствъ и небеспеченствъ здорове и маетности ее кглейтȣем и ȣбеспечаем (КАР, 89б, 1648); здорове и добра ихъ одъ всякихъ трудностей ... кглейтуемъ и убезпечаемъ (АСД, II, 85, 1686); Мы теды король ... здоровье и субстанцію превелебного ксендза Бялозора, бискупа Пинского и Туровского кглейтуемъ и убеспечаемъ (АВК, VIII, 602, 1689).

**Кглейтовный, клейтовный** *прым. ад* кглейтъ. 1. ◇ Листъ кглейтовный – *ахоўная грамата, пропуск.* затымь Польскии король Казимиръ Локотковичь. што их т҃ браты Корьꙗтович на Подольскои земли а люди моужны. и ѡн прислаль ко к҃нзю Костꙗньтиноу клеитовныи листы. с великою твердостию просѧ его што бы к немоу приехаль (Увар., 100), ѡн прислаль кь к҃нзю Костентиноу кглеитовныи листы (Супр., 103б); мы тобѣ, брату нашому, на твои послы великіи листъ нашъ кглей товный послали (АЗР, II, 254, 1533–1538); тотъ неприятель нашъ, убезпечивши листомъ своимъ кглейтовнымъ на послы насъ и панства наши ... замокъ взялъ и опановалъ (АЗР, III, 131, 1563); просилъ насъ господара абы есмо ему листъ кглейтовный с канъцелꙗрыи нашое выдати велели (КЛС, 5, 1596); на кглеитовныхъ листехъ ездити – *рабіць паездку, карыстаючыся ахоўнай граматай.* к҃нзь Костꙗньтинъ. на кглеитовных листехъ к Польскому королю ездиль (Увар., 100).

2. *Той, бяспека якога гарантавана ахоўнай граматай.* мы... противъ него бенꙗша Ждановича ꙗко кглейтовного и правомъ посполитымъ ȣбеспечоного заховали (КЛС, 5б, 1596).

**Кглейтовый** *прым. ад* кглейтъ. ◇ Листъ кглейтовый — *тое, што і* листъ кглейтовный. тогды мы гсдрь таковымъ выволаньцомъ, маемъ подънесенье на выволанье и листы наши кглейтовые ку справе ... давати (Ст. 1588, 168); тотъ листъ нашъ кглейтовый ему колонътаю выдать есмо велели (КЛС, 31, 1596); если бы емȣ велики й кнꙗз доброволног до себе приеханꙗ дозволил, А на то емȣ присꙗглъ, и листы кглейтовые прислал,



теды ... до него сꙗ перекинут ѡбѣцал (Стрыйк., 576); Тимофей Чешейко, оповедалъ и покладалъ листъ его королевское милости кглейтовой на речь въ немъ меновите описаную (АВК, I, 169, 1612).

**Кглейтъ, глейтъ, кгвейтъ, клейтъ** *наз.* 1. *Ахоўная грамата, пропуск для свабоднага праезду па пэўнай тэрыторыі.* Глейтъ данъ въ Вилнѣ, а далъ Иванъ Владыка (АЗР, I, 178, 1498); тотъ кглейтъ наш на врꙗдех и везде где сѧ ѡборочати будеть ... маеть давати ѡбволывати (Ст. 1566, 10); кглейты господаря нашого, черезъ гонцовъ его Московскихъ пересланые, назадъ до господаря нашого несетъ (АЗР, III, 173, 1574); мы гсдръ бȣдемь повиньни заразъ его казати выволати вечнымъ выволаньемъ ижь вжо таковомȣ ѡ кглейтъ нашъ на подънесенье выволаньꙗ даванъ быти не маетъ (Трыб., 6); естли быхмо мы гсдръ клейтомъ своимъ кого ȣбеспечили, а тот бы кглейтъ ꙗвне и значне былъ ѡбъволанъ (Ст. 1588, 18); помененый колонъта й на то собе кглейтъ ѡт насъ ѡдержал (КЛС, 142б, 1597); всказал до сенатȣ римског абы емȣ дали кглейтъ доброволне до римȣ приехат (Бельск., 151); просил нас абыхмо ... здорове ег листом кглейтом нашым ѡбваровали (КАР, 9, 1646); абы кождый ... ни яковихъ трудностей и примовокъ нигдѣ ... чинить не важилъ се подь винами, въ правѣ посполитомъ и конституцияхъ сеймовыхъ о зламаню листовъ кгвейтовъ нашихъ описаными (АСД, II, 85, 1686), за написане глейту, обмовы и листу до пана Каминского, подписку дали золот т҃ (ИЮМ, XIII, 105 106, 1699). ◇ Кглейтъ (клейтъ) ломати (зламати, зкгвалтити) *парушаць (парушыць) прадпісанні ахоўнай граматы* ты, братъ нашъ, можешъ самъ тому добрѣ зрозумѣти, ижь намъ, не одно такъ знакомитому чело вѣку, але и найменьшому, кглейтовъ нашихъ не годится ломати (АЗР, II, 144, 1522); тотъ который кглейтъ нашъ гсдрский зкгвалтил ... тот сам себе и кглейтъ зламал и горло тратить (Ст. 1566, 10б); тот самъ собе клейтъ зламалъ (Ст. 1588, 19).

2. *Ахова.* потомъ, бывши на Москве, за ся его милость господаря нашого есми перееднавъши, на кглеитъ до его милости есми приехалъ (КСД, 771, 1511); еще футро одно его милости пану Осовскому пестрое обецаное презъ него жъ Матиаша одослали, просячи о кглейтъ месту (ИЮМ, II, 154, 1684).

**Кглембикъ** *наз. Стоўбік, невялікая калона.* У того жъ взяли кглембиковъ двадцать, зъ тыхъ збито кглембиковъ дванадцаць, зол. одинъ и осм. шесть (ИЮМ, V, 141, 1688); Нагороды за магилекъ и за кглембиковъ чотырнадцать, отъ кождой по чеху, осм. двадцать одинъ (Там жа, 142).

**Кглетъ** *гл.* кглиотъ

**Кглиозовати** *дзеясл. Даваць каментарыі, тлумачэнні на палях кніг, дакументаў.* Дозорцы ... всю справȣ статечнѣ на

иншом реестрѣ спорѧженȣю слово въ слово в$^{s}$ головныи реестръ вписати мают, жебы южъ намнѣй в$^{s}$ немъ не пр[и]правовати и не кглiозовати (Ст. бр., 11б).

**Кглнотъ, кглетъ** *наз. Буйны шрот; куля.* тотъ Жикгимонтъ... служебника моего почтивого шляхтича ... з ручницы шротомъ, петьма кглiоты прострелилъ (АВК, XXII, 256, 1565—1566); въ першый палецъ одъ великого пострелилъ, въ которомъ пальцу и кглетъ зосталъ (АВК, XVIII, 126, 1594).

**Кглова, глова** *наз.* **1.** *Тое, што і* голова *ў* 1 *знач.* гекторъ ... з ȣдареньꙗ меча своего так его на глову ѡкрутне вдарил иж его голову на две части розтѧл (Троя, 39б—40); менѧлꙗоуш... так его тѧжко ранил на глову иж спалъ с конѧ (Там жа, 47б); о что всесмиренно упросивши, скланяемъ до стопъ гловы наши и зостаемъ назавше жичливыми (ИЮМ, XIII, 442, 1734).

**2.** *Тое, што і* голова *ў* 8 *знач.* Една кглова цукру канару, котора важитъ фунтовъ три и полъ, по золотому и осм. шесть (ИЮМ, XIV, 11, 1700).

**Кглокъ** *наз. Глог (кустовая або невялікая дрэўная расліна сямейства ружакветных).* богатество ест кглокъ терние кропива ȣбозство сосна и мирта (Зб. 259, 588б).

**Кглоновый** *прым Галаўны (?).* ꙗ тым ѡвен. добрыи боранъ... кглоновы жилы не ѡтварѧю. але и з ынших кровъ пȣскаю геже до лазни рад хоцзаю. але потȣ не доваю (Неба, 68б).

**Кглосомъ** *прысл. Уголас, вымаўляючы гучна.* далъ ему тотъ листъ, который панъ Миколай кглосомъ чести росказалъ (АВК, XVII, 54, 1539).

**Кглосъ, глосъ** *наз.* **1.** *Тое, што і* голосъ *у* 1 *знач.* телѧѹс ... вдарене ахилево своим ȣдаренемъ ѡтдалил а млствым глосом покорне просил (Троя, 6б); троꙗнове ... юж бы вшистки корабли пожегли але на глос и на приказанье гетмана своего вшистци то ѡпустили (Там жа, 64).

**2.** *Тое, што і* голосъ *у* 3 *знач.* грекове заправдȣ през глос роговое трубы седмъ тысѧчь валечных напротивку гекторови прикозали сѧ зъехать (Троя, 58).

**3.** *Тое, што і* голосъ *у* 5 *знач.* слышалэм же умарлъ там в том мешканю своим а праве знагла были дивнэ кглосы и миманꙗ людцкэ ѡ тэ$^{s}$ смерти его (Еўл., 50).

**Кглоцкий** *прым.* ◊ Сукно кглоцкое — *гатунак сукна, вырабленага ў Глогаве.* у краме моей ... байки простое, чырвоное локъти тры и четверть, сукна кглоцкого, чырвоного тры чверти (ИЮМ, XXI, 422, 1625).

**Кглупство** *гл.* глупство

**Кгляренцыя** *наз. Род мяча.* Бово възнѧлъ гуню, вынѧлъ меч кглѧренцыю (Бава, 153); Бово витез похватил добрыи мечъ кглѧренцыю и тѧл гетмана (Там жа, 165).

**Кгмахъ, гмахъ** *наз. Будынак, пакой.* тые рэчи были бы сполу въ ѡдном кгмахȣ з рэчми домового гсдра (Ст. 1566, 85); імъ лепшие светлицы кгмахи и склепы записывают и забираюţь (СДГВ, 114, 1568); кого з ре$^{s}$стрȣ закличȣть до справы не зъ жадною зъкграею пристȣпити и до кгмаху входити маеть, толко наболе$^{s}$ сам четвертъ, то есть самь с прокȣраторомъ а з двема приꙗтели ȣвоити маеть (Трыб., 7б); постȣпилисмы тогды собѣ звычаем оного римлѧнина, который ... беспечне в склѧном кгмахȣ мешкалъ (Апакр., 91); Тотъ дом, ижъ вжо будованье старое, кгмахи вси текутъ (АВК, VIII, 491, 1601); над все которое был ȣмыслил сѣни и кгмахов воѡколо на скарбы (Біблія, 407); Там теж на тых кгмахах зброи и иныи речи ѡт желѣза ховано, абы длꙗ моцы тог дерева не ржавилѣ (Бельск., 115б); алимпиꙗда ... приказала ему гмахъ в полатѣ дати (Алекс., 2б); збȣдовалъ емȣ доситъ престронный, и ѡздобный кгмахъ и палацъ (Карп., 29б); Мȣситсѧ прето ѡдновити и поднести длѧ зготованѧ комнатъ и гмаховъ, жебы крол$^{s}$ Х҃с з$^{s}$ А҃гглами и Д҃хами С҃тыми вшолъ во нь (Мак., 148); Дрȣгіи Гмахи были в которых мешкали сщсници слȣжачи в ц҃ркви свою седмицȣ (Выкл., 82б); Закровъ: Латiбȣлюм$^{s}$. Гмах. Исход: К҃с. таен$^{s}$е, або закрыте, ꙗскинѧ, ꙗма в$^{s}$ которой дикіи звѣрѧта лѣгаютъ (Бяр., 49); шолъ до палацȣ где хори$^{s}$ лежалъ в$^{s}$ гмахȣ коштовне ȣбраномъ (Пралог, 539). *Параўн* дмахъ.

**Кгминъ, гминъ, кгменъ** *наз. Народ, грамадства; абшчына.* тотъ Ярошъ, передъ выданемъ сенътенцыи нашое, просилъ о узычене часу, вызнаваючы тотъ грехъ свой передъ Богомъ, а тотъ злый учынокъ свой передъ паны Свирыдовичы и передъ всимъ кгминомъ (ИЮМ, VIII, 255, 1597); двѡх министрѡв жацы из школы с҃того ꙗна и иншій кгмѣнъ на оулици с погребȣ идоучихъ мало не оукаменовали (Апакр., 31б); розмаитыми своими чȣдами и наȣкою довѣренѧ собѣ привелъ людій, а особливе з$^{s}$ посполитого кгмѣнȣ простыхъ и щирыхъ (Калiст, I, 122б); забитого пана Даниеля Лазаровича кгминъ и тумультъ места Виленского одышолъ (АВК, XX, 273, 1621); въ той церквѣ зосталисьмо не малый кгминъ людей (АВК, II, 64, 1632); Таковою теды ꙗ нендзны$^{s}$ Афанаси$^{s}$ волею бозскою примȣшоны$^{s}$ бȣдȣчи, южем былъ почал се кготовати на высоким театрȣм свѣта того, се$^{s}$му мовлю валного в полщи бȣдȣчого пред всѣмъ гмином людскимъ; в$^{s}$ костелѣ под бытност: кр: маст: ... поднести писанꙗ в килкадесꙗт фастикулах (Дыяр., 163); таких на видокъ передъ ȣвес кгминъ выводили и з нихъ насмевиска чинили (Зб. 259, 347); кгминь посполитый незличоный иꙗовъ з ними (Хран., 90б).

**Кгмуръ** *наз. Селянін.* кгдыж слȣги простые сут ꙗко кгмȣрове, на высокие речы, принꙗвши ѡт них шлюбъ повѣдил ѡ своем пане скритом стратонѣ (Бельск., 173б).

**Кгностикъ** *наз. Член раннехрысціянскай ерэтычнай секты гностыкаў.* само поганство вѣрных ѡбвинꙗт не могли, великие

ѡные потвари на них ȣ сȣдов взновили, ꙗкобы людские тѣла и дѣте<sup>s</sup> своих мꙗсо ели, и нечистости в посполитости таемне чинили, што ѡныи кгностицы проклꙗти под именем хрстиꙗн чинили (Бельск., 241).

**Кгнядый** *гл.* гнядый

**Кгодина** *гл.* година

**Кгодный** *гл.* годный

**Кгодский** *гл.* готский

**Кгоды** *гл.* годы

**Кгоздзчикъ** *наз. Тое, што і* гоздикъ. купили ... Инберу фунтъ ... Кгоздзчиковъ лотъ, асмак. дванадцаць (ИЮМ, I, 301, 1682).

**Кгоздикъ** *гл.* гоздикъ

**Кголдовати** *гл.* голдовати

**Кголекга** *гл.* колекга

**Кголкъ, голкъ** *наз. Шум, гоман; смута.* прішолъ в<sup>s</sup> домъ переднейшого в<sup>s</sup> зъгромаженьи, и віделъ голкъ, плачȣчихсе и крічачі много (Цяп., 49); грека тотъ ѡтцъ Никифор Азар Протасы<sup>s</sup>, се<sup>s</sup> ꙗко бы первоседалникъ по патриарсе, пытал што то за кголкъ (Барк., 150б). *Парайн.* голка.

**Кголый** *гл.* голый

**Кгомоинъ** *гл.* кгамаинъ

**Кгомолка** *наз. Сыр цылиндрычнай, конусападобнай ці аваль най формы* за малы<sup>s</sup> ѡкрȣглы<sup>s</sup> сыръ албо за малдрикъ ѡсмъ пенези<sup>s</sup>, за кгомолкȣ чотыри пенези (Ст 1588, 514) *Парайн.* гомолокъ.

**Кгонецъ** *гл.* гонецъ

**Кгонтовый, гонтовый** *прым. ад* кгонтъ мѣщанинъ Берестейскій, зъ Люблина мѣлъ товаръ свой: гвоздья кгонтового фаски 3 за копъ 3 (АСД, III, 299, 1583); купили ... гвоздя совитого латного, кгонтового и цвековъ также шпилекъ за золот. одинъ и асм. шесть (ИЮМ, I, 43, 1679); Купили гвоздя гонтоваго отъ Круглика на браму (ИЮМ, IV, 185, 1686); За гвозде латное, копы полторы, осм. тридцать семъ. Кгонтового гвоздя копа, осм. шесть (ИЮМ, IX, 124, 1692); Еще гвоздя гонътового купили копъ трыдцать (ИЮМ, XII, 109, 1698); Гвоздя купили гонтового копъ тры (ИЮМ, XIII, 62, 1699).

**Кгонтъ, гонтъ, кгунтъ** *наз. Гонта (невялікая дошчачка, саструганая з аднаго боку і з пазам — з другога).* служебники твоей милости ... не только отъ тыхъ судовъ выщей описаныхъ, але и отъ дощокъ и кгонтовъ, отъ драницъ ... съ кождого возу по грошу ... и по три берутъ (АВК, VIII, 251, 1550); кгонты и тартицы въ томъ же дому есть (АВК, XIV, 194, 1579); Ворота до того двора старые, кгунты крытые (АВК, VIII, 417, 1586); на тыхъ же воротахъ салька кгонтами побитая (АВК, XIV, 435, 1592); домъ гонтами побіяный подъ однымъ покрытіемъ (АВК, XI, 46, 1593); кгмахи вси текутъ, зъ даховъ



кгонты опали (АВК, VIII, 491, 1601); казали килка домов ȣчинит ѡколо замку, и побиват кгонтами (Хр. польск., 7б); тые свѣтлицы кгонтами побиты и новыми полатаны (АВК, VIII, 73, 1607); Дщица: Таблица, дощка, дощечка, гонтъ (Бяр., 39); Кгонтъ купили до брамы ветрной (ИЮМ, I, 264, 1682); за выдеране гвоздей зъ кгонту старой ратуши Гришку Агаповичу дали золот. два (ИЮМ, II, 131, 1684); Гонъту копъ сто до направеня Путятинки (ИЮМ, XII, 94, 1698).

**Кгора** *гл.* гора

**Кгорелка** *гл.* горелка

**Кгормъ** *наз. Прадстаўнік старажытнага біблейскага народа.* ѡт сына тогож гомера, афетовича, то кгормы, з тых цымбров и кготов правдиве а неѡмилне певною енеалекгиею пошли (Стрыйк., 420б).

**Кгороденский** *прым. Тое, што і* кгроденский. року ѯи (68) по со<sup>s</sup>ме кгороденском и по зезде воинском ехал корол его млст до люблина длꙗ сконченꙗ ȣнеи<sup>s</sup> (Еўл., 6).

**Кгородский** *гл.* городский

**Кгоронцый** *прым.* **1.** *Інтэнсіўны, насычаны (аб колеры).* казано дать ... кухмистру за працу на жупанъ китайки жолтой кгоронцей воднистей, которую купили отъ пани Шункевичевой (ИЮМ, V, 140, 1688)

**2.** *Неадкладны.* ◇ Право кгоронцое *гл.* право

**Кгорцекъ** *гл* горщокъ

**Кгорчицковатый** *гл.* горчитковатый

**Кгорылчаный** *гл.* горелчаный

**Кгосподаръ** *гл.* господаръ

**Кгосподинъ** *гл.* господинъ

**Кгосподыня** *гл.* господыня

**Кготский** *гл.* готский

**Кготъ** *гл.* готъ

**Кграбаръ** *гл.* грабаръ

**Кграбе** *гл.* кграбя

**Кграбежъ** *гл.* грабежъ

**Кграбити** *гл.* грабити II

**Кграбникъ** *наз. Тое, што і* грабаръ. Двумъ кграбникомъ панъ бурмистръ казалъ платить особливе на день по осм. пятнадцать (ИЮМ, IX, 128, 1692).

**Кграбский** *прым. ад* кграбя. отъколь бы его милость самъ, дети его милости, потомки и щадки, яко упрывилiованые кграфы тымъ зацнымъ тытуломъ кграбским писатися мели, на вечные часы поставляемъ, уфаляемъ, и тотъ титулъ кграбства взносимъ (АВК, XXXVI, 169, 1582).

**Кграбьство, грабство, кгарабство** *наз.* **1.** *Зб. ад* кграбя ў 2 *знач.* тыи три королеве ис своимъ кграбьством и людом ѡт жидовскеи змле аж до встокоу и до калдеи се верноули (Валх., 56); с таким и таким великим людом и кгарабъством

